**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 4 (720) 23 студзеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by











Хрышчэнскае купанне на крыніцы св. Яна (Іаана) пад Чарневічамі. Крыніца стала месцам масавага паломніцтва ў гэты святочны дзень, асабліва шмат прыязджае палачан і навапалачан. *Фота Ул. Скрабатуна.*





## МНС інфармуе
**на 21.01.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 58;
Гібель людзей – 11, з іх 0 дзяцей;
Урон – 44,0 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 2;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 3.0 млн. руб.



## За тры дні Дарам вешчуноў у Мінску пакланілася больш чым 170 тысяч вернікаў

**За тры дні Дарам вешчуноў у Мінску пакланілася звыш 170 тысяч вернікаў. Аб гэтым паведамілі ў ГУУС Мінгарвыканкама.**

Адна з самых шанаваных у хрысціянскім свеце каштоўнасцей была дастаўлена ў Мінск 17 студзеня.

Рэліквія знаходзіцца ў сталічным Доме міласэрнасці. У першы ж дзень пакланіцца святыні прыбыло без малога 40 тысяч вернікаў (цырымонія працягвалася з сямі гадзін вечара да гадзіны ночы). На другі дзень, 18 студзеня, святыню наведала 77 тысяч чалавек, яшчэ звыш 60 тысяч прыхаджан пакланіліся Дарам 19 студзеня.

«Усе гэтыя дні ахова грамадскага парадку каля Дома міласэрнасці і на сумежнай тэрыторыі забяспечвалася супрацоўнікамі сталічнай міліцыі. Надзвычайных здарэнняў і правапарушэнняў не дапушчана», — гаворыцца ў паведамленні ГУУС Мінгарвыканкама.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

### Аршанскі раён

# Недабор прывёў да перабояў

■ Станіслаў Раманчук

**Напрыканцы мінулага года ад беларускай сталіцы да глыбінкі шмат дзе ўзніклі перабоі з продажам малочных прадуктаў.**

З падобнымі праблемамі сутыкнуліся не толькі жыхары Оршы, яе горада-спутніка Барані, але і гарпасёлка Балбасава паблізу райцэнтра. У прычынах іх узнікнення сталі разбірацца спецыялісты Дзяржкантролю і высветлілі, што паўсюдна ў вобласці прадпрыемствы мясамалпрама не выконвалі заяўкі гандлюючых арганізацый. Акрамя таго ў пяці правераных аршанскіх крамах былі выяўлены факты продажу пакупнікам пратэрмінаваных малочных прадуктаў, незахавання санітарных норм і правіл. Агульная бяда заключаецца і ў тым, што рэзка знізіўся асартыментны пералік на паліцах масла, малака, кефіру. Як было ўстаноўлена, на Аршаншчыну зусім спыніў пастаўкі Лепельскі МКК, а ААТ "Малако" з Віцебска стала выконваць заяўкі не ў поўным аб'ёме. Не дакупіцца спажыўцам было ў асобныя дні і прадукцыі малочных заводаў з Полацка і Пастаў, бо яны скарацілі завоз сваіх вырабаў з-за недахопу сыравіны з ферм. Аршанцам не вельмі падабаецца прадукцыя свайго малочнага камбіната і адразу з'явіўся дэфіцыт шэрагу малочных прадуктаў. Іх прыйшлося завазіць з іншых абласцей краіны, адкуль таксама вытворцы, каб зарабіць болей, шмат сталі адгружаць малочных прадуктаў у Расію. Праведзены маніторынг Дзяржкантролю паказаў таксама, што не толькі нізкая зімой прадукцыйнасць жывёлы на фермах, але і парушэнні заканадаўства аб гандлі, недахопы ў абслугоўванні спажыўцоў набылі ўстойлівы, сістэмны характар.

### Віцебскі раён

# Працэс канфіскацыі пайшоў

■ Чэслаў Якубовіч

**Няпростая сітуацыя з аварыйнасцю на айчынных дарогах прымусіла заканадаўча ўзмацніць меры адказнасці за язду ў нецвярозым выглядзе.**

І суровыя меры ўздзеяння цалкам апраўданыя, бо толькі летась на Віцебшчыне па віне п'яных гора-кіроўцаў адбылося 70 ДТЗ, у выніку якіх 20 чалавек загінулі і яшчэ 80 атрымалі траўмы і калецтвы. Днямі ж у абласным цэнтры суд Першамайскага раёна горада прыняў першае рашэнне аб канфіскацыі аўтамабіля ў 54-гадовага віцебскага вадзіцеля. Яго спачатку затрымалі пад градусам за рулём мінулым летам, аштрафавалі і пазбавілі правоў. Аднак не прайшло і паўгода, як мужчына сеў за руль аўтамабіля сваёй знаёмай і зноў папаўся супрацоўнікам ДАІ на адной з вуліц. Свае паводзіны пры складанні пратаколу патлумачыў, што ў той дажджлівы дзень вельмі спатрэбіліся дома свечкі, хоць да бліжэйшай царквы прайсціся пяшком каля 15 хвілін. Цяпер жа акрамя матэрыяльных страт аўто па прыгаворы суда віцяблянін пакараны папраўчымі работамі тэрмінам на 2 гады з выплатай чацвёртай часткі заробку ў даход дзяржавы. Яму таксама на працягу 5 гадоў нельга будзе і думаць аб яздзе на любым транспартным сродку, а стаць пешаходам. Дарэчы, у бліжэйшыя дні колькасць такіх вось кіроўцаў, у якіх забяруць правы і машыны, можа рэзка павялічыцца. На тэрыторыі Віцебскай вобласці летась 439 вадзіцеляў, з якіх больш ста толькі ў абласным цэнтры, двойчы затрымліваліся на працягу года за "п'яную язду". На штрафныя стаянкі дастаўлены 45 транспартных сродкаў, якіх чакае канфіскацыя. Гэты працэс пайшоў і ў глыбінку, у адных толькі Паставах затрыманы ўжо тры п'яныя кіроўцы-"паўторнікі".

### Пастаўскі раён

# Што ні пажар, то з ахвярай

■ Кастусь Александровіч

**З першых дзён года з розных куткоў краіны прыйшлі паведамленні аб дзясятках пажараў з цяжкімі наступствамі.**

Увогуле летась па колькасці загінуўшых у агні беларусы практычна зраўняліся з лікам ахвяр неаб'яўленай вайны ў Афганістане, якая працягвалася 10 доўгіх гадоў. У Пастаўскім раёне сітуацыя з супрацьпажарнай бяспекай да нядаўняга часу не выклікала трывогі, а агонь забраў на працягу амаль цэлага года жыцці толькі двух жыхароў. Аднак за лічаныя дні ўсё перавярнулася ў горшы бок і два апошнія пажары адышоўшага года завяршыліся бядой. Напярэдадні навагодніх свят спачатку з-за неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні на падпітку загінуў у сваім доме ў вёсцы Рудка калгасны слесар. Праз некалькі дзён ужо пад раніцу знайшоў сваю пагібель у агні, хутчэй усяго па такой жа прычыне, ужо мужчына ў сваёй кватэры ў аграгарадку Андроны. Першы ж тыдзень новага года на Пастаўшчыне прайшоў спакойна, без надзвычайных здарэнняў. Аднак першы ж трывожны званок у цэнтр аператыўнага кіравання райаддзела МНС стаў сігналам новай трагедыі. Глыбокай ноччу ў 4 гадзіны прыйшлося моцна пахвалявацца жыхарам вуліцы Гагарына ў цэнтры горада. Як факел пасярод ночы, успыхнуў яркім полымем драўляны жылы дом, у якім жыла адна пажылая 85-гадовая пенсіянерка. Хоць пажарныя прыбылі вельмі хутка, але вогнішча ўжо знішчыла дах са столлю, моцна пашкодзіла сцены і сярод галавешак знайшлі труп жанчыны. На шчасце, агонь не перакінуўся да суседзяў, а прычыны гэтага здарэння будуць выяўлены пазней.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| Мясцовы час | Чацвер 23.01.14 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Пятніца 24.01.14 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Субота 25.01.14 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Нядзеля 26.01.14 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Пн.27.01.14 03:00 | 09:00 | 15:00 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -13 | -15 | -11 | -13 | -13 | -15 | -11 | -13 | -14 | -15 | -11 | -13 | -15 | -17 | -11 | -14 | -16 | -18 | -11 |
| Ціск | 752 | 753 | 753 | 755 | 755 | 756 | 757 | 758 | 758 | 758 | 757 | 755 | 754 | 753 | 753 | 753 | 752 | 751 | 750 |
| Вільготнасць | 83 | 82 | 79 | 84 | 75 | 79 | 71 | 83 | 75 | 79 | 78 | 87 | 91 | 88 | 70 | 87 | 88 | 88 | 67 |
| Вецер м/сек | 4 Пн-У | 3 Пн-У | 4 Пн-У | 4 Пн-У | 3 Пн | 3 Пн-У | 3 Пн | 1 У | 1 У | 1 У | 2 Пд | 2 Пд | 2 Пд | 1 У | 1 У | 1 У | 1 У | 2 У | 4 Пд-У |

# Аб самым надзёным

## Перадвыбарны год пачаўся для беларусаў істотным павышэннем кошту камунальных паслуг



■ Аляксандр Цішкевіч

**А вось сёння спрагназаваць, якія будуць нават у канцы 2014 года заробкі ў суайчыннікаў, ніхто не возьмецца з цвярозым розумам. Нeяк прыціхлі ў перадвыбарны год размовы аб росце праслаўтых 500-доларавых зарплат. У глыбінцы цяпер яны ўпалі і сталі каля 400 долараў.**

Пачатак гэтага года многім суайчыннікам запомніцца найперш неверагодна цёплым і бясснежным надвор'ем. А ў астатнім у нас мала што мяняецца з году ў год: зноў прэзідэнцкая, прафесійная ў большасці сваёй каманда перамагла аматараў на пацешным Калядным хакейным турніры, урачыста ўручылі ў сталіцы затым новым лаўрэатам штогадовыя прэміі "За духоўнае адраджэнне". За гэтай урачыстай цырымоніяй, праўда, назіраў у Палацы Рэспублікі разам з "народам божым" новы направлены ў Беларусь прадстаўнік БПЦ 61-гадовы мітрапаліт Павел.

Гэты царкоўны дзеяч толькі 4 студзеня прыбыў у Мінск і публічна парадаваўся, што трапіў у дзяржаву, якая "адраджаецца і квітнее" і надалей заўсёды будзе такой жа магутнай. Праўда, урадджэнцу Караганды Георгію Васільевічу Панамарову, які ніколі не жыў на беларускай зямлі, яго памочнікі, напэўна, не паспелі паведаміць, што сітуацыя ў айчыннай эканоміцы не такая ўжо аптымістычная, як падаецца, гледзячы на шчодра асветленыя сталічныя праспекты. Толькі ў снежні наша краіна выплаціла яшчэ 253 млн. долараў на аплату сваіх даўгоў па крэдыту МВФ.

І толькі цудам дзякуючы палітычнаму рашэнню Крамля аб чарговым крэдыце на 2 млрд. USD, яго добрага Дзеда Мароза – прэзідэнта У. Пуціна Беларусь на некалькі месяцаў выратавалася ад новага абвалу сваёй нацыянальнай валюты. У Маскве ацанілі падатлівасць А. Лукашэнкі па асноўных вострых пытаннях узаемаадносін і найперш яго згоду аб уваходжанні нарэшце Мінскага завода колавых цягачоў у склад расійскага холдынга "РТ-аўта", створанага дзяржкампаніяй "Растэхналогіі" ў 2010 годзе. Цікава, што за некалькі тыдняў да гэтага беларускі лідар меў іншую пазіцыю, але быў вымушаны яе памяняць пад грузам эканамічных праблем.

Адчуваюць цяперашнія цяжкасці і няўпэўненасць у заўтрашнім дні і большасць беларусаў. Нездарма ж летась напрыканцы года яны актыўна штурмавалі абменнікі банкаў і скупілі замежнай валюты на рэкордныя за адзін толькі снежань месяц 1 мільярд долараў. Акрамя гэтага, як і абяцалі, з пачатку 2014 года адбылося планавае павышэнне камунальных тарыфаў у адпаведнасці з прэзідэнцкім Указам № 550. Гэты дакумент выканалі чыноўнікі аператыўна і найперш найбольш для насельніцтва падаражэў газ – на 30 %. Са студзеня жыхары кватэр з лічыльнікамі за 1 кубаметр газу павінны плаціць амаль 2 тысячы рублёў.

Тыя, хто паляніўся абзавесціся такімі прыборамі ўліку, за кожнага пражываючага павінны выкласці з кішэняў па 15520 рублёў. Дарэчы, "блакітнае паліва" для беларусаў летась таксама падаражэла амаль на трэць. А вось у мінулым годзе для спажыўцоў самым адчувальным стала павышэнне тарыфаў амаль у 2 разы на падачу электраэнергіі. Сёлета з 1-га студзеня за свет зноў трэба плаціць болей яшчэ на 20 % і старацца эканоміць. Тарыф 737 рублёў за 1 кВт/гадзіна дзейнічае, толькі калі сям'я ўклалася ў спажыванне не болей 150 кілават у месяц.

Меней, толькі на 6,4 % падаражэла для насельніцтва ацяпленне жылля і гарачае водазабеспячэнне. Таксама і палова зімы былі лагоднымі для беларусаў, не было лютых халадоў і меншымі сталі дакументы па аплаце паслуг ЖКГ. У сталіцы і абласцях таксама павысілі і іншыя камунальныя тарыфы. А вось для спажыўцоў народнай гаспадаркі ўрад больш чым на 10 долараў знізіў тарыф на спажыванне прыроднага газу. Ва ўрадзе Беларусі, дарэчы, абяцаюць і ў далейшым ліквідаваць так званае субсідзіраванне насельніцтва за кошт рэальнага сектара эканомікі. Значыць трэба рыхтавацца да таго, што камунальныя паслугі для беларусаў будуць расці.

А вось сёння спрагназаваць, якія будуць нават у канцы 2014 года заробкі ў суайчыннікаў, ніхто не возьмецца з цвярозым розумам. Неяк прыціхлі ў перадвыбарны год размовы аб росце праслаўтых 500-доларавых зарплат. У глыбінцы цяпер яны ўпалі і сталі каля 400 у. а. Аднак – гэта сёння і яшчэ далёка не ва ўсіх. Сітуацыя, сапраўды, вельмі няўтойлівая і толькі 31 снежня быў зацверджаны ў Мінску сціплы прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2014 год з ростам ВУП усяго на 3,3 %.

Не трэба быць вялікім эканамістам, каб зразумець, што чарговая пяцігодка ўжо правалена. Пацвярджаюць гэтыя лічбы эканамічнага росту ВУП РБ: 1,5 % у 2012 годзе і каля 1 % летась. І каб не чарговая дапамога Расіі (на яе прасторах афіцыйна працуе ўжо каля паўмільёна беларусаў), нам бы прыйшлося дрэнна ўжо ў пачатку года. Аднак асобныя чыноўнікі чамусьці лічаць такіх людзей "тунеядцамі" і ледзь не ўявлі для іх новы падатак для дармаедаў.

## Дзень за днём

**Толькі ў сярэдзіне студзеня зіма паказала сваё сапраўднае аблічча беларусам. Проста катастрафічным для Беларусі стаў апошнім часам імклівы рост знешняга доўгу. Ужо летам сёлета можа абвастрыцца сітуацыя на валютным рынку, а рублю пагражае дэвальвацыя, калі не ўдасца дамовіцца з Расіяй аб адмене пошлін на нафтапрадукты. Напрыканцы мінулага года ў снежні беларусы пайшлі на рэкорд і скупілі 1 мільярд долараў, а спажывецкія цэны летась выраслі на 16,5 %. Толькі 11 прадстаўнікоў апазіцыйных партый трапілі ў склад выбарчых камісій па ўсёй краіне.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ірак.** Яшчэ больш сур'ёзна абвастрылася сітуацыя ў краіне пасля нападзення ісламістаў на гарады Рамадзі і Фаллуджу, канфлікт шыітаў і сунітаў забраў жыцці ўжо 10 тысяч людзей.

**Сірыя.** Зноў верны саюзнік рэжыма Б. Асада Расія заблакіравала заяву Савета бяспекі ААН з асуджэннем авіяўдараў арміі краіны па горадзе Алеппа, дзе загінула 700 чалавек.

**Японія.** Цэнтрабанк пачаў новую праграму стымулявання эканомікі, якая паспяхова праводзілася ў 1930-х гадах, у выпадку няўдачы свету пагражае новы фінансавы крызіс.

**Літва.** Прэм'ер-міністр А. Буткявічус заявіў, што са студзеня 2015 года літоўцы далучацца да зоны еўра, які стане нацыянальнай валютай замест літа ўслед за Латвіяй.

**Расія.** Услед за прызнаннем новага гендырэктара ААТ "Уралкалія" Д. Осіпава эксперты ў свеце чакаюць аднаўлення працы сумеснага з "Беларуськаліем" калійнага трэйдара.

**Польшча.** Пасля некалькіх страшных навагодніх ДТЗ у краіне вырашана пажыццёва пазбаўляць правоў п'яных вадзіцеляў-забойцаў, з 2015 у кожным аўто будзе алкатэстар.

**Англія.** Пад відам Еўразійскага саюза, як заявіла газета "The Financial Times", У. Пуцін спрабуе адрадзіць СССР і халодную вайну з Захадам, але мала грошай на такія замашкі.

**Украіна.** Пасля зніжэння "Газпрамам" цаны на газ да 268,5 долараў за тысячу кубаметраў на І квартал года краіна спыніла закупкі "блакітнага паліва" з дзяржаў заходняй Еўропы.

**Канада.** У правінцыі Альберта на захадзе краіны зафіксавалі першы выпадак смерці ад птушынага грыпу H5N1, мужчына падхапіў яго вірус падчас паездкі ў Кітай.

**Аўстралія.** У штаце Квінсленд на ўсходзе кріаны з-за невыноснай спёкі да 45 градусаў цяпла загінулі дзясяткі тысяч лятучых мышэй, многія з іх гінулі падчас палётаў.

**Францыя.** Сайт Еўрапейскага вяшчальнага саюза паведаміў аб адмове адразу 12 краін кантынента ад удзелу ў 59-міжнародным конкурсе песні "Еўрабачанне-2014" у Даніі.

**Германія.** Да 13 млрд. еўра, як заявіў прэзідэнт FIS Ж. Каспер, скралі ў Расіі падчас падрыхтоўкі Алімпіяды-2014 у Сочы, але там стварылі ў субтропіках выдатныя аб'екты.

**Літва.** Генпракуратура падрыхтавала 73 еўраордэры на арышт 78 замежных грамадзян, з іх 2 з Беларусі, па справе падзей 1991 года і гібелі людзей у Вільнюсе і Мядзінінкаі.

**Карэя.** Шэраг СМІ абвергі ранейшыя паведамленні аб самагубстве роднай цёткі лідара КНДР Кім Ген Хі, але яна моцна хворая пасля аперацыі па выдаленні пухліны мозга.

**Швейцарыя.** Міжнародная федэрацыя футбола (ФІФА) пацвердзіла, што чэмпіянат свету 2022 года ў Катары пройдзе зімой, бо летам там тэмпература пад 50 градусаў цяпла.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На новых выбарах 2015 года, як заявіў палітолаг У. Мацкевіч, улада не паўторыць сцэнарый 2010 года, але мае рэсурсы для патрэбных маніпуляцый і кантролю працэсаў.

**Гродна.** Акрамя трох расійскіх, як пацвердзілі ў канцэрне "Белнафтахім", інтарэс да пакупкі часткі дзяржпакета акцый ААТ "Гродна Азот" праявілі таксама кампаніі з Катару і з Індыі.

**Мінск.** МАЗ можа прайграць, як заявіў пасол РФ А. Сурыкаў, калі не ўступіць у холдынг "Росбелаўта", бо КамАЗ цяпер выпускае разам з немцамі аўтамабілі ўзроўню "Мерседэс".

**Жодзіна.** Урад РБ у сувязі з няпростым фінансавым становішчам дазволіў дырэкцыі БелАЗа не пералічваць 334 мільярда рублёў у Фонд нацыянальнага развіцця Беларусі.

**Ліда.** Большасць калектыва "Лідахлебпрама", вядомага брэндам "Лідская мука", адправілі ў водпускі за свой кошт, калгасы не разлічыліся на 50 мільярдаў рублёў за пастаўкі камбікорму.

**Бяроза.** Расія зняла забарону на ўвоз мясапрадукцыі і свініны мясцовага мясакансервавага камбіната і з яшчэ 5 прадпрыемстваў галіны і свінакомплексаў Брэсцкай вобласці.

**Бабруйск.** Напярэдадні завяршэння праграмы мадэрнізацыі дрэваапрацоўкі загарэлася другое за месяц прадпрыемства галіны – "Фандок", агонь знішчыў 30 кв. м даху, адходы.

**Мінск.** На метэастанцыях краіны з новага года скарацілі 370 супрацоўнікаў, фінансаванне гідраметэаслужбы Беларусі знізілі да 12 мільярдаў рублёў пры неабходных на год 35 мільярдах.

**Брэст.** Работнікі гарстанцыі хуткай дапамогі далучыліся разам з калегамі з Баранавіч да патрабаванняў павышэння зарплат медыкаў Мінска, ім паабяцалі павысіць даплаты.

**Чэрвень.** Пасля крадзяжу ў вёсцы ежы і адзення міліцыя затрымала ў лесе ў 30 км ад 5-й асобнай брыгады армейскага спецназа збеглага 21-гадовага салдата, ураджэнца Мазыра.

**Магілёў.** Хітом у Інтэрнеце стала відэа пажару з-за замыкання праводкі самай высокай (38 м) ёлкі Беларусі, патушыць хутка агонь пажарным дапамаглі дождж са снегам.

**Драгічын.** Праз двое сутак пошукаў знайшлі трупы двух маладых рыбакоў, якія ноччу ставілі сеткі на гумавай лодцы, парэзалі яе аб тонкі лёд і загінулі ў сцюдзёнай вадзе.

**Гродна.** Вядомая кампанія "Макдональдс" вырашыла пабудаваць у горадзе адзін, а то і 2 рэстараны сеткі хуткага харчавання, якія пакуль у Беларусі працуюць толькі ў Мінску.

**Быхаў.** Жыхар раённага цэнтра набраў банкаўскіх крэдытаў на 20 тысяч долараў і спіўся, у яго 4-х паручыцеляў судовыя выканаўцы канфіскавалі мэблю, бытавую тэхніку на пагашэнне.

**Мінск.** На кінастудыі "Беларусьфільм" завяршылі мантаж працягу славутай кінакамедыі "Белыя росы", але на экраны Расіі яна выйдзе ў абмежаваным пракаце на 300 копіях.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Згодна дасягнутым у Маскве дамоўленасцям, у першым паўгоддзі 2014 года Расія па максімуму забяспечыць загрузку мясцовага "Нафтана" і Мазырскага НПЗ.

**Гарадок.** Больш 70 прадпрымальнікаў страцілі працу ў сталіцы будучых "Дажынак-2014" пасля закрыцця рынка райпо ў цэнтры, ім прапанавалі пераехаць на стадыён агракаледжа.

**Полацк.** Палачан абурыла, што адразу 11 вялікіх бяроз спілавалі на месцы будаўніцтва новага гандлёвага цэнтра па вуліцы Кастрычніцкай, экалогію пагоршыць прыпынак аўто.

**Глыбокае.** Праверка Дзяржкантролю выявіла факты фальсіфікацыі дакументаў у мясцовым райпо пры закупках сельгаспрадукцыі ад здатчыкаў на суму 118 мільёнаў рублёў.

**Дуброўна.** На выбарах у абласвет дэпутатаў сярод 60 акруг мясцовая стала самай малой у вобласці па колькасці выбаршчыкаў, іх стала на Віцебшчыне з 2010 г. меней на 8 тысяч.

**Лёзна.** Улады раёна перадалі вытворчыя плошчы былога кансервавасушыльнага завода ў райцэнтры фірме з Украіны для стварэння прадпрыемства па выпуску касметыкі і мыла.

**Талачын.** Урэанімацыю райбальніцы з адкрытым пераломам нагі даставілі раніцай вадзіцеля лесавоза мясцовага лягсага, трайму ён атрымаў пры пагрузачных работах.

**Орша.** На мясцовым мясакансервавым камбінаце ў рамках падпраграмы "Дзяцям Віцебшчыны" распрацавалі навінку – кансервы з ялавічыны для малышоў да 6 месяцаў.

**Віцебск.** Следчыя затрымалі 21-гадовую гараджанку, якая падчас спрэчкі на падпітку вечарам збіла да смерці 54-гадовага беспрацоўнага бамжа, ураджэнца Талачына.

**Мёры.** Паблізу вёскі Блажкі міліцыя затрымала кантрабандыста з Астравецкага раёна Гродзеншчыны, які на мікрааўтобусе хацеў нелегальна перавезці 25 тыс. пачак цыгарэт.

**Паставы.** Пад суд зноў пойдзе 28-гадовы раней судзімы гараджанін, які п'яны днём злосна пахуліганіў і ўстроіў пагром у кафетэрыі магазіна "Лідзія" ў цэнтры горада.

**Віцебск.** Абласны суд пакараў зноў 40-гадовага педафіла віцябляніна 2,5 гадамі турмы за распусныя дзеянні каля дзетсада, калі ён "абмацваў" дзяўчынку, у яго нелады з псіхікай.

**Верхнядзвінск.** На галоўнай сцэне раёна ў РДК у трэці раз прайшоў "Калядны фестываль" з удзелам юных талентаў усіх канфесій раёна, выставай духоўных кніг, ярмаркай дабрыні.

**Шаркоўшчына.** Раён разам з Браслаўскім і Чашніцкім справіўся з заданнем па стварэнні аб'ектаў прыдарожнага сервісу і дамоў паляўнічых, сёлета ў вобласці здадуць іх яшчэ 22.

**Наваполацк.** На базе былой дыетычнай сталовай адкрылася ўтульнае кафэ "Лілія" ў цэнтры горада, якое стала вельмі папулярным сярод гараджан і гасцей нафтаграда.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Мясніковіч даручыў усім арганізацыям правесці скарачэнні штата і няпрофільных актываў да вясны



■ БелТА

**Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў агучыў ключавыя прыярытэты работы беларускай эканомікі ў 2014 годзе.**

Так, галоўнымі задачамі на бягучы год з'яўляюцца збалансаваны эканамічны рост і эфектыўнасць. Не менш актуальнымі застаюцца таксама пытанні, якія датычацца экспарту і аптымізацыі імпарту.

«Мы павінны значна нарасціць аб'ёмы экспарту і ў пэўнай ступені рацыяналізаваць імпарт, для таго, каб забяспечыць дадатнае сальда», — паставіў задачу Міхаіл Мясніковіч. У сувязі з гэтым урад разлічвае на актыўную работу камерцыйных банкаў, а таксама Нацыянальнага банка як галоўнага рэгулятара грашова-крэдытнай палітыкі.

Адносна ўстаноўленых паказчыкаў прэм'ер адзначыў, што перш за ўсё неабходна ўводзіць дыктат паказчыкаў эканамічнай эфектыўнасці, а не вала. Ацэнка ж работы прадпрыемстваў павінна даваць, у першую чаргу, па прыбытку, забяспечанасці абаротнымі сродкамі і росту прадукцыйнасці працы.

«Трэба смела і актыўна ісці на рэструктурызацыю стратных і неплацежаздольных арганізацый», — адзначыў прэм'ер.

Аб гэтым, паводле яго слоў, гаворыцца шмат, але да гэтага часу практычна нічога не зроблена. «Неэфектыўныя прадпрыемствы і вытворчасці не павінны жыць за кошт бясконцых бюджэтных датацый і добра працуючых калег», — падкрэсліў кіраўнік урада.

Перад усімі арганізацыямі ставіцца задача па працягу першага квартала з улікам развіцця новых сектараў і галін эканомікі правесці аптымізацыю.

Асобнай увагі патрабуе ўкараненне аўтсорсінгу. «Прадпрыемствы трэба вызваліць ад няпрофільных і дапаможных відаў дзейнасці», — лічыць прэм'ер. Перадача ўсіх няпрофільных актываў мясцовым органам улады па фактычным стане павінна быць завершана таксама ў першым квартале гэтага года. У рамках дзеючых аб'яднанняў Міхаіл Мясніковіч прапануе стварыць гаспразліковыя структуры на базе будаўнічых, транспартных, сацыяльных і іншых падраздзяленняў, якія вядуць гэту няпрофільную (у адносінах да асноўнага бізнесу) дзейнасць.

У Год гасціннасці, на думку Міхаіла Мясніковіча, неабходна вярнуцца да выканання патрабаванняў Дырэктывы нумар 4.

«Прадпрымальніцтва, развіццё сферы паслуг у гэты год павінны стаць важнейшымі фактарамі эканамічнага росту», — адзначыў ён. Таму тыя заданні, якія ўстаноўлены ў адносінах да мясцовых органаў улады па павелічэнні долі малога і сярэдняга бізнесу ў валавым рэгіянальным прадукце, павінны быць не проста нейкімі пажаданнямі - у гэтым напрамку павінна быць праведзена пэўная работа, пераканаы прэм'ер.

# Гданьск –

## *Шлях да Бацькаўшчыны цягам 12 гадзін*



**Людміла Ардынская,**
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

Якая ж сіла прыцягальная зямлі,
Святой, бацькоўскай, па якой хадзілі
Дзяды і прадзеды, дзе родныя магілы,
Шляхі-дарогі, што праз сэрца праляглі!
"Паланэз над Бярозаўкай!

### Мясціны, знітаваныя з душой

Чалавечае жыццё можна выразна параўнаць з няроўным полем, якое трэба перайсці. Узгоркі чаргуюцца з нізінамі, праз іншую ручаіну можна пераскочыць, а праз шырэйшую і глыбейшую трэба кладачку пакласці. Вось ты ўжо на дарозе, а яна такая пакручастая, з каляінамі і выбоінамі! І давядзе цябе гэтая няведамая дарога лёсу да нейкага прыстанка, бо не стае ўжо моцы ісці далей. Пускаеш тут карані, чапляючыся за чужую глебу, баючыся, каб не вырвалі. З цягам часу пачынаеш любіць гэтую зямлю, дзякуючы, што яна дала магчымасць табе выжыць і любавацца тым, што стварылі тут тваё рукі. Але ведаеш, што дзесьці за небакраем ляжыць родная зямля, якая спрадвеку завецца Бацькаўшчынай. Успаміны аб ёй радасныя, светлыя. І сумныя ў тых, хто страціў яе, асабліва не па сваёй волі. Я разумею такіх людзей, бо страту перажыла сама.

Па волі лёсу вёска Радзюкі стала для мяне другой радзімай. Радзюкоўская зямля дала натхненне маёй паэтычнай творчасці, па ёй нясе свае воды з роднай Глыбоччыны ў Дзісну рака Бярозаўка. Я зацікавілася гістарычным мінулым Шаркоўшчынскага краю. Апаэтызавала паходжанне назвы вёскі Радзюкі. Адна з іх звязаная з легендай. Другая мае навуковую падставу. На думку навукоўца, старшыні нацыянальнай тапанімічнай камісіі пры Акадэміі навук Беларусі Ігара Капылова, які праз газету "Звязда" даў мне адказ, назва вёскі Радзюкі паходзіць ад асабовага імя Радзюк, якое ўяўляе сабой гутарковую форму царкоўнага праваслаўнага імя Радзівон. У іншых мясцовасцях сустракаюцца аднакаранёвыя варыянты Радзюш, Радзюль, Радзюн і іншыя.

Я больш схілялася да старабеларускага слова "радети" (XIV-XV), што азначае "клапаціцца". Думалася, хто ён той Радзівон-Радзюк, старанны, дбайны, клапатлівы, які, магчыма, і заснаваў былы да 1939 года маёнтак Радзюкі? Менавіта ён даў пачатак радзюкоўскім хатам. Звестак было небагата. У школьным музеі захоўваліся ўспаміны Афінагена Шпака, сына панскага млынара. Яго сястра Надзея Лазовік распавядала пра тагачаснае жыццё. Але ніхто не ведаў, куды падзеліся былыя ўладальнікі маёнтка, які быў далейшы іх лёс.

Завязка гісторыі пачалася з наведвання Радзюкоў адным з трох апошніх прадстаўнікоў роду, якія нарадзіліся ў маёнтку Радзюкі, 84-гадовым Эдвардам Бароўскім. Пагутарылі з людзьмі. Першая сустрэўшаяся жанчына накіравала яго з жонкай, пляменнікам да Надзеі Лазовік, як старэйшай па ўзросце, больш дасведчанай аб даўніне. О, Божы цуд! Яна – дачка млынара гаспадароў. Разам купаліся ў Бярозаўцы. Гэты прыезд праз 70 гадоў Эдварда на радзіму быў пачаткам сяброўства паміж сем'ямі. Ніхто не ведаў тады, што ён прафесар.

Нарыс "Вяртанне да вытокаў", змешчаны ў 2009 годзе ў газеце "Вольнае Глыбокае", не меў бы шырокага рэзанансу, каб паважаны Уладзімір Скрабатун не дапоўніў бы яго фотаздымкамі ўладальнікаў маёнтка і іх кароткім жыццяпісам, магчыма, узятымі з сайта. Вось тут і праліўся, як кажуць, свет на ўсё. Стала вядома, што гэта высокаадукаваны шляхецкі род, меўшы свой радзінны герб "Ястрабец". Прадстаўнікі роду – вайскоўцы арміі і флоту вышэйшых чыноў у Расійскай імперыі, навукоўцы. Я коратка паўтараю звесткі для тых, хто не чытаў нарыс "Вяртанне да вытокаў".

Мне хацелася, каб як мага большая колькасць людзей ведалі пра гісторыю вёскі Радзюкі і слынных ураджэнцаў маёнтка. З'явілася публікацыя ў раённай газеце "Кліч Радзімы", потым у рэспубліканскай "Звяздзе" на конкурс "Мясціны, знітаваныя з душой". Для мяне Радзюкі – сапраўды такія мясціны з цікавым гістарычным мінулым і асобамі, якімі сапраўды трэба ганарыцца. Калі глыбачане ўшаноўваюць памяць аб такіх слынных асобах як Корсак, Даленга-Мастовіч, Драздовіч, Сухі і іншыя, то чаму радзюкоўцы павінны абыякава ставіцца да сваёй гісторыі?

Калі Германавічы ў Шаркоўшчынскім раёне святкуюць 450-годдзе заснавання і зберaглі палац графа Шырына, то чаму б радзюкоўцам не адсвяткаваць у хуткім часе 200-годдзе і не зберагчы 125-гадовы дуб, адзінага сведку мінуўшчыны. Ёсць паблізу будынак, дзе жыла Гелена Бароўская (Рабцэвіч), цётка прафесара Эдварда, але ён даўно ўласнасць сталых і паважаных людзей. І ніхто не будзе варушыць іх спакой. Застаўся млын, ніжняя частка якога змуравана з каменняў, ён паступова развальваецца. Забягаючы крыху наперад, скажу, што Бароўскія былі б гатовыя выкупіць гэты млын, адрамантаваць яго, можа б музей атрымаўся. Прадаюць жа іншую маёмасць з аўкцыёнаў. У Богдана – адмірала, брата Эдварда, ёсць загарадны дом, які зроблены па падабенстве радзімнага маёнтка ў Радзюках і мае назву Радзюкі-2. Гэта доказ таго, што, жывучы ўдалечыні ад Бацькаўшчыны, яны не парываюць сувязі з ёй. Павучыцца б нам усім любові да родных мясцінаў, якія назаўсёды павінны быць знітаваныя з душой, ведаць бы нам кожнаму свой радавод, любіць родны кут, як любяць зямлю сваіх продкаў і ганарацца імі нашчадкі гэтага знакамітага роду.

#### Пані Малгажата

*(Людміла Ардынская)*

Тонкі стан і гнуткі, нібы ў рабінкі,
Светлы твар прывабны, як у беларусінкі,
Па плячах уецца локан светлarусы,
Песенькі спявае разам з беларусамі.
Як прамовіць слова, бы бруіць крыніца,
Ці журчыць рачулкі чыстая вадзіца.
Ласкава шчабеча, ластаўкай лятае,
На гарбату, каву гасцей запрашае.
Узнёслая асоба, тонкая натура,
Ставіцца прыязна да нашай культуры.
Для яе мастацтва – праца і натхненне,
Ад карцін Шагала была ў захапленні.
І хто яе бачыў, усіх яна здзівіла,
Бы прыйшла з палацаў роду Радзівілаў.
Скончылася казка каля маёй хаты,
Прад вачыма вобраз пані Малгажаты.

### Радзюкоўскія карані і польская крона генеалагічнага дрэва роду Бароўскіх.

Паважаны Уладзімір Скрабатун вывеў радаводную лінію менавіта радзюкоўскага перыяду з 1825 года, калі шляхціч Антон Бароўскі купіў маёнтак у графаў Берастоўскіх. Яго сын



**Радзюкі. Сям'я Бароўскіх. Каля 1893 г. Гжэгаж Бароўскі – злева ўверсе ва ўніформе.**

Эдвард, палкоўнік, удзельнік Крымскай вайны, атрымаў ад цара ўзнагароду – Ясеневую ляску з каштоўным упрыгожаннем, якая дазваляла яму сядзець у прысутнасці цара. Ён – толькі жыхар часткі Радзюкоў.

А вось ягоныя сыны Гжэгаж і Севярын нарадзіліся ў Радзюках. Абодва служылі ў царскім ваенным флоце, першы – палкоўнік, другі – адмірал. Мелі вышэйшую адукацыю інжынераў-механікаў, вучыліся ў Кранштаце і за мяжой у Францыі, Англіі. Гжэгаж удасканаліў вынаходніцтвы ў галіне пабудовы паравых катлоў. Працаваў на верфях Севастопаля, Мікалаева, пазней у Пецярбургу.

Асабліва цікавая гісторыя жыцця Севярына. Ён удзельнічаў у бітве пад Цусімай падчас руска-японскай вайны (1905г). Зразумеў, што не выстаіць пад артабстрэлам японцаў і патапіў флот, каб не захапілі японцы, трапіў у палон. Пасля працаваў на верфях Мікалаева і Севастопаля. Пенсіяваны, жыў у маёнтку Юззфова Дзісненскага павету, пахаваны ў Новым Пагосце. У адзін з прыездаў наведаюць маладыя Бароўскія гэтыя могілкі, адшукаюць магілу свайго продка, дапаможа ім ксёндз Роберт. Магілу прывядуць у належны стан. На помніку з мармуру яскрава відаць надпіс: Адмірал Севярын Бароўскі (1884-1935)*.

І яшчэ цікавы факт: калі сталі цікавіцца ў мясцовых жанчын, якія прыйшлі на імшу, як дабрацца да месца, дзе быў маёнтак Юзэфова, адна з жанчын сказала, што яе маці была эканомкай у Бароўскіх, а яна – хросная дачка пані. Узгадала, што ў яе хаце ёсць невялікая карціна панскага маёнтка, намаляваная фарбамі невядомым мастаком. Яе разам з абразом Маці Божай падаравала хроснай дачцэ пані Мар'я Бароўская. У Польшчы карціну аднавілі рэстаўратары, фотакопію Бароўскія пакінулі сабе, а яе ў прыгожай рамачцы прывезлі гаспадыні.

Доўга ішлі да месца, дзе стаяў маёнтак. Праважаты вёў спачатку па чыгунцы, потым па полі (машыны не маглі даехаць). У чыстым полі нават камянёў ад падмурку не засталося. Адно дрэва расце нейкім цудам. Пасля вайны ў маёнтку размясцілі дзіцячы дом, сталыя людзі сказалі, што ён згарэў ад падпалу. Удаву Севярына Бароўскага (яны не мелі дзяцей) пасля смерці мужа возьме ў сваю сям'ю прафесар Віленскага ўніверсітэта Вацлаў Бароўскі, пляменнік Севярына.

Вацлаў Бароўскі быў сынам палкоўніка Гжэгажа, які пабудаваў вадзяны млын у Радзюках, удасканальваў сельскую гаспадарку. Жонка Браніслава з роду Грабоўскіх настаўнічала. Кожны год сям'я прыязджала з дзецьмі Дзюнэкам, Юрэкам і Данэкам на летнія вакацыі. Дзеці вельмі любілі бавіць час на рэчцы Бярозаўцы. Загаралі, купаліся разам з сялянскімі дзецьмі. Цудоўныя краявіды, лес, вялікі сад, алеі вялікага парка, экзатычныя расліны, кветкі, цеплыня і ўтульнасць роднага дома, любоў родных – усё гэта занатавалася ў памяці падлеткаў і засталося дарагімі сэрцу ўспамінамі на ўсё жыццё.

Вацлаў і Браніслаў Бароўскія, па ўспамінах шаноўнай Надзеі Лазовік, якая, на жаль, пайшла з жыцця, былі добразычлівымі людзьмі, уважліва і спагадліва ставіліся да тых, хто працаваў у іх гаспадарцы, дапамагалі, чым маглі. Аднойчы здарыўся такі выпадак: Данэк марыў аб морах-акіянах, хацеў стаць маракам. Змайстравалі невялікі плот, Бярозаўка была глыбейшай значна і больш хуткаплыннай. Можа перавярнуўся той плот, не разгубіўся сялянскі хлопчык Фінагей Шпак, ўратаваў паніча. Вацлаў Бароўскі дапамог дапытліваму, кемліваму хлопчыку паступіць у Віленскую гімназію. Ён пэўны час жыў у Бароўскіх, пасля вайны ў Савецкай Заходняй Беларусі ён працаваў у органах мясцовай улады, і цяпер яго хата стаіць на беразе Бярозаўкі на тэрыторыі ўладанняў былых гаспадароў яго бацькі, дзе жывуць яго ўдава, унукі і праўнукі.

Данэк-Богдан ажыццявіў сваю мару, служыў у флоце, стаў адміралам, жыве ў Гданьску. Дзюнэк-Эдвард Бароўскі – прафесар-біяхімік, вучоны, вядомы ў Еўропе, мае прыватную лабараторыю, яшчэ працуе, у 88 гадоў кіруе аўтамабілем і марыць прыехаць у Радзюкі, па яго выразе, памачыць ногі, можа



**Прафесар Эдвард Бароўскі (злева) і пляменнік Богдан на фоне старадаўняга здымка іх роду.**

* Такія даты жыцця на помніку. У публікацыі за 2009 г. мы падавалі іншыя даты жыцця – 1863-1935. Гэтыя даты падаюцца нам больш праўдападобнымі. На помніку, відавочна, памылка. Бо ці мог Севярын у 1905 г, у 21 год, быць адміралам?

# Радзюкі

## і даўжынёй каля 1000 кіламетраў.


Двор Бароўскіх у Радзюках

ў апошні раз, у Бярозаўцы.

Юрэк-Ежы, трэці брат, на жаль, пайшоў з жыцця, быў навукоўцам – мікрабіёлагам.

Мы дакладна не ведаем, ці наведала сям'я маёнтак летам 1939 года. Набліжаўся трывожны час. Калі ён прыйшоў, маёнтак часткова быў разрабаваны, штосьці засталося, мабыць, для стваранай хаты-чытальні і клуба.

Сельскагаспадарчыя пабудовы пасля вайны скарыстае калгас. Маёнтак разбяруць і вывезуць.

Нядаўна даведалася пра такі цікавы факт. Эдвард Бароўскі не першы з братоў наведаў Радзюкі праз 70 гадоў, што стала сенсацыяй. Прывезлі з Польшчы здымак, на якім відаць арка-брама пры ўездзе ў былы маёнтак; углыб тэрыторыі адыходзяць алеі, думаю, з ліп, ствалы пабеленыя. Наверсе металічнай высокай аркі – зорачка і надпіс "Добро пожаловать!" Запрашэнне ў кантору саўгаса імя Маркава, не інакш. На працу. І сапраўды, людзі ехалі адусюль у Радзюкі, вёска Скураты за Бярозаўкай уся была перасялена ў Радзюкі. Ёсць здымкі Бярозаўкі, канторы, узведзенай на месцы маёнтка, і фота двух мужчын, ужо немаладых. Радзюкоўцы прызналі ў адным кавалера Гіполіка Лук'янёнка, у другім Рыгора Лазовіка, магчыма, яго наймалі Бароўскія на працу часова, ён не быў запашнікам, бо меў уласную зямлю. Хто зрабіў гэтыя здымкі? Высвятляецца, што ў 1974 годзе Данэк-Богдан Бароўскі прыехаў у Калінінград. Мабыць, хутчэй у Ленінград па сваіх справах у Адміралцейства і змог нейкім чынам наведаць родныя мясціны. Нікога не шукаючы, не было на гэта часу, відаць зрабіў некалькі здымкаў. Сялян ён сустрэў хутчэй за ўсё выпадкова, памятаў іх і сфатаграфаваў. Распытаць ужо нельга. Трэба адзначыць, што Бароўскія, ужо і прадстаўнікі маладога пакалення, у прыватнасці Богдан, аб якім далей пойдзе размова, наведваюць заўсёды 90-гадовую Аліну Чорную, маці якой прыслужвала ў пакоях іх продкаў. Яго дачка Агнешка, мастачка, намалявала яе партрэт.

Сыны прафесара Вацлава Бароўскага атрымалі вышэйшую адукацыю ў Польшчы і еўрапейскіх універсітэтах, таму што адразу пасля заканчэння вайны сям'я пераехала з Вільні на сталае месца жыхарства ў Польшчу. Генеалагічнае дрэва знакамітага шляхецкага роду Бароўскіх з уласным гербам "Ястрабец" стала пышнець сваёй каронай, дзякуючы новым маладым адгалінаваннем. А карані гэтага дрэва – у Радзюках. Мне здаецца, што 125-гадовы дуб – сімвал-вобраз гэтага дрэва з глыбока ўрослымі ў глебу каранямі.

У Эдварда, Ежы і Богдана – дзеці, унукі, праўнукі, якія нарадзіліся ў Польшчы і ніколі не бачылі радзіннага гнязда сваіх продкаў. Многія жывуць у Амерыцы, Германіі, іншых краінах Еўропы.

І толькі браты Богдан і Кшыштоф (дзеці адмірала Богдана) наведалі Радзюкі, а для сям'і Богдана – гэта стала звычайнай з'явай. Яны страцілі спадчыну, а займелі сяброўства з сем'ямі спадароў Гембіцкіх і іх дачкі Тацяны Белінскай. Дзякуючы ім я атрымала фотаздымкі і расповеды, якія запісала. Аб новым пакаленні роду Бароўскіх, якое прадстаўляе Богдан, яго жонка Малгажата, іх дзеці, пойдзе далейшы аповед. Менавіта яны былі за ўсіх зацікавіліся зямлёй сваіх слынных продкаў і нашай краінай Беларусь, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы і адкрытая для сяброўства з суседзямі.

### Богдан і Малгажата Бароўскія. Пётр, іх сябра.

Богдан – сын таго Данэка-Богдана, які ў дзяцінстве плаваў на плыце па Бярозаўцы і стаў адміралам флота ў Польшчы. Прафесію абраў іншую: кіруе прыватнай фірмай, падобнай на нашу ЖКГ (жыллёва-камунальную гаспадарку). У ёй працуюць таксама сын і жонка. Яна – мастак-дызайнер. Дачка Богдана і Малгажаты – мастачка. У Радзюкі прыязджаюць ужо пяты раз. Сёлетні прыезд выпаў на лістапад, дагэтуль падарожнічалі на сваім мікраааўтобусе па Іспаніі, Італіі, Бельгіі, Германіі, іншых краінах Еўропы. "Дзе брацць сродкі на падарожжа?" – пытаюся. Богдан тлумачыць: "Шмат працуем, зарабляем".

Пётр Пленікоўскі, сябра іх сям'і, на гэты раз упрасіўся ў Беларусь, вельмі ж яму хацелася паглядзець на яе сваімі вачыма.

Позняя восень сустрэла іх пахмурным, дажджлівым, няветлівым надвор'ем. Богдан – вопытны кіроўца, але адчуваў стомленасць, спідометр накручваў дзевяцьсоты кіламетр. Пазней жартоўна, а можа ўсур'ёз, скажа: "Варта толькі паглядзець на маю жонку, як стомленасць знікае". Сапраўды, Малгажата – жвавая і вясёлая, прывабная і прыемная, увасабленне жаноцкасці. З такой не засумуеш.

Пётр пільна ўглядаўся ў мільгаючыя за шклом краявіды: рэчкі, азёры, гаі, вялікія сучасныя аграгарадкі, вёскі, сельскагаспадарчыя аб'екты, тэхніка, як кажуць, на лінейцы гатоўнасці. Чарнелі ўзараныя вялікія плошчы, рунелі засеяныя азімінай палі. Праязджалі невялікія райцэнтры, прыгожыя, добраўпарадкаваныя, адметныя сваёй архітэктурай, гістарычнымі помнікамі.

Пётр займаецца разам з кампаньёнамі пабудовай маторных і парусных лодак, яхтаў. У мінулым, дзесьці ў 80-я гады ўдзельнічаў у Еўрапейскай гонцы парусных лодак на 2-корпуснай лодцы "Тарнада". Сціпла прызнаўся, што стаў медалістам, якім, не сказаў. Пабачыў усю Еўропу і быў вельмі ўлюбёны ў нашу Беларусь. Адзначыў, што і родны кут яго сяброў не такая глухая правінцыя, якую ён уяўляў. Але гэта будзе потым, пасля наведвання гасцямі Віцебска, Полацка, Глыбокага, Паставаў, Браслаўя. Але покуль што яны былі ў дарозе. Вось і Шаркоўшчынскі раён. Радзюкі сустракаюць вялікім неонавым надпісам на даху гандлёвага цэнтра "Родны кут" – так цяпер паўсюдна называюцца харчовыя крамы (хоць тут маем дачыненне да беларускасці – надакучылі "Мегатопы", "Транзіты" і больш недарэчныя назвы). "Родны кут" у Радзюках размешчаны якраз на тэрыторыі былой сядзібы Бароўскіх, і назва лёсавызначальная – тут сапраўды быў іх родны кут. Ад алеяў і прысадаў нічога не засталося, акрамя старых дрэў каля канторы на беразе Бярозаўкі. Вырасла ўздоўж шашы новая Садовая вуліца з прыгожымі дамамі. Было крыху сумна: па гэтай зямлі хадзілі дзяды і прадзеды Богдана. Усцешвала тое, што не заарaлі гэту зямлю, не зарасла яна хмызняком, пальном. Ходзяць па ёй людзі, новае маладое пакаленне радзюкоўцаў, якое, мабыць, незразумелае палякам, як іхняе нам.

Адпачыўшы крыху, госці з Гданьска завіталі на канцэрт у сельскі Дом культуры. Са сцэны я бачыла іх твары яўна стомленыя, але крыху насцярожаныя, недаверлівыя. Іх здзівіла, што канцэрт арганізавалі самі жыхары, самадзейныя артысты, сярод іх ёсць таленавітая моладзь. Каб зрабіць гасцям прыемнае, па сцэнары было задумана прачытаць мой верш на польскай мове "Полымя любові" аб іх радзінным гняздзе і старым дубе, які задуменна стаіць на ўзрэччы ў чаканні гаспадароў. Малгажата ўстала з крэсла, пакланілася ў знак падзякі за ўвагу да іх. Пачуў польскую мову, вярнуўся ў залу з фае Богдан.

За тыдзень свайго знаходжання ў Радзюках Богдан, Малгажата і Пётр разам з гаспадарамі гасціннага дома пабывалі ў цікавых месцах раёна і Віцебшчыны. У Глыбокім наведалі месца, дзе стаяў дом пісьменніка Даленгі-Мастовіча, па рамане якога быў зняты фільм "Знахар", наведалі Алею Славы знакамітых ураджэнцаў Глыбоччыны, фатаграфаваліся ля самалёта авіяканструктара Сухога.

Як мастачцы Малгажаце спадабаўся музей Марка Шагала ў Віцебску. Вырашылі пайсці на спектакль "Брэменскія музыканты" ў лялечны тэатр, каб зрабіць падарунак дзяўчынцы Ані, дачцы гасціннай Тацяны Белінскай. Не было квіткоў, але замежных гасцей уладкавалі на прыставных крэслах. Спадабаліся лялькі, артысты, сам горад над Дзвіной, старажытны і малады.

У старажытным Полацку наведалі Сафійскі сабор, Спаса-Еўфрасінеўскую царкву. Шмат цікавага пабачылі на Пастаўшчыне, інтарэс выклікалі "Навінкі", дзе замежным гасцям прэзентавалі некалькі карпаў. Нацыянальны парк, браслаўскія азёры і прыгожы Браслаў госці з Польшчы наведваюць кожны год, хоць і ў восеньскую пару. Абавязкова бываюць на Новапагоскіх могілках, што на Мёршчыне, каб пакланіцца магіле свайго слыннага продка Севярына Бароўскага.

У якіх бы месцах ні былі нашы госці, яны заўсёды адзначаюць добразычлівасць, ветлівасць, адкрытасць душы беларуса.

Мяне, як мясцовую паэтку, чалавека, зацікаўленага гісторыяй вёскі Радзюкі, а таксама Ларысу Іванаўну Шпак, творчую, таленавітую жанчыну, якая на працягу многіх гадоў укладала свой талент у развіццё культурнага жыцця вёскі, усяго сельскага савета, гасцінныя гаспадары і нашы госці двойчы запрашалі на гарбату і каву. Гарбата, канечне, гучала сімвалічна. Паспрабавалі польскай каўбаскі, адмысловых сасісак і жытняга польскага хлеба. Не знайшла ў ім асаблівых адрозненняў, ён адзіны, як і слова "жыта", якое ў славян гучыць аднолькава. Спадарыні гасціннага дома Рэгіна і яе дачка Тацяна частавалі ўсіх такімі прысмакамі, што пальчыкі абліжаш. Вельмі спадабаліся "голэмбцы". За сталом спявалі беларускія, польскія і рускія песні, чыталі вершы. Напрыканцы паспрабавалі торт з надпісам "Радзюкі", прывезены з Гданьска.

Богдан – не толькі прыемны суразмоўца, які ўмее ўважліва слухаць. Ён вельмі дасведчаны і эрудзіраваны. З ім можна гаварыць на розныя тэмы, закранаць пытанні літаратуры, мастацтва, навукі. Калі зайшла размова аб гісторыка-культурнай спадчыне Беларусі, ён заклапаціўся аб захаванні дуба, які быў пасаджаны ля маёнтка ў 1888 годзе ў гонар нараджэння яго дзеда Вацлава. Ён так і не зразумеў, чаму так няпроста ўшанаваць памяць аб яго слынных продках хоць бы шыльдачкай на 125-гадовым дубе. Я паабяцала што-небудзь зрабіць, толькі ці атрымаецца? А між тым чытаю ў СМІ аб адназначнай ў Беларусі таго ці іншага гістарычнага аб'екта. Распрацавана дзяржаўная праграма рэстаўрацыі помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны да 2018 года, іх каля 500, будуць выдаткаваны сродкі ("Звязда").

У Радзюках аднаўляць нечага. Млын? Дах праваліўся, ніхто яго не будзе аднаўляць. Потым і сцены з чырвонай цэглы разбяруць. Зрабіць шыльдачку на дуб – дробязь, знайшліся б аматары, але патрэбны дазвол улады. Гэта значыць, трэба дакумент, які даказваў бы, хто і калі пасадзіў яго і сведкі. Пакуль будзеш думаць - і апошнія сыдуць з жыцця.

Але пакінем сумныя разважанні. У гасцей з Польшчы засталіся добрыя ўражанні аб нашым раёне, Беларусі наогул. Адзначаюць насычанасць рынка прамысловымі і харчовымі таварамі, добраўпарадкаванасць нашых населеных пунктаў, адсутнасць п'яных людзей на вуліцах, спакой і стабільнасць у грамадскім жыцці. Гасцям хочацца кожны раз адкрываць для сябе новае і цікавае ў нашай спадчыне.

Малгажата і Пётр па-руску не размаўляюць, таму давялося пачуць польскую мову ў арыгінале. Яна прыгожая, як і беларуская. Пачалі вывучаць рускую. Богдана навучыла рускай мове настаўніца-расіянка, якая працуе з ім у фірме.

Праз тыдзень Бароўскія ад'язджалі. Быў цёплы туманны ранак, чарнела мокрая ад дажджу шаша. На краме свяціліся неонавыя вялікія літары "Родны кут". Крыху далей – абрывісты бераг Бярозаўкі, якая бяжыць, спяшаецца ўлішча ў Дзісну і дуб, сведка даўніны.

Чамусьці падумалася, што Богдан прасігналіў на развітанне. Наперадзе Паставы і доўгі шлях амаль у 1000км ад Бацькаўшчыны да Гданьска.



Богдан і Малгажата ля самалёта авіяканструктара П. Сухога ў Глыбокім.

Зміцер Лупач

Біскуп Алег Буткевіч:

# “Я не перастаю быць для вас братам”

**У суботу 18 студзеня ў Віцебскай катэдры адбылася кансэкрацыя біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча.**

Абрад пасвячэння праводзіў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдзіё Гуджэроцці. Асістэнтамі былі арцыбіскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі Тадэвуш Кандрусевіч і біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі дзяржаўнай улады, праваслаўнай царквы, дыпламатычнага корпуса, журналісты. Прысутнічалі таксама практычна ўсе святары Віцебскай дыяцэзіі, а таксама прадстаўнікі іншых дыяцэзій, як з Беларусі, так і з-за мяжы. Віцебская катэдра ледзь змясціла ўсіх жадаючых папрысутнічаць на ўрачыстасці, якая не так часта здараецца ў жыцці.

Напачатку да прысутных звярнуўся ксёндз прэлат Францішак Кісель, які выконваў абавязкі адміністратара Віцебскай дыяцэзіі. Праз Апостальскага нунцыя ён перадаў папу Францішку падзяку за яго выбар.

Нагадаем, само абвяшчэнне ксяндза Алега біскупам Віцебскай дыяцэзіі адбылося ў гэтай жа катэдры 29 лістапада мінулага года. Тады гэта рашэнне абвесціў арцыбіскуп Клаўдзіё Гуджэроцці, афіцыйны прадстаўнік Ватыкана ў Беларусі.

Пасля прывітальных слоў ксяндза Францішка Кісяля была зачытаная папская була – спецыяльны папскі дакумент. Яна была абвешчана на лацінскай мове, потым ксёндз Францішак прачытаў яе пераклад на беларускую мову. У буле ксёндз Алег характарызаваўся як “…хвалебнымі здольнасцямі надзелены і ў святых рэчах дасведчаны, быў прызнаны адпаведным, каб ёю (Віцебскай дыяцэзіяй) кіраваць.”



Пасля гэтага паводле кананічнага права арцыбіскуп Гуджэроцці спытаў біскупа намінанта перад усім народам, ці па добрай волі хоча ён ускласці на сябе гэты пачэсны і нялёгкі абавязак – кіраўніцтва дыяцэзіяй. На ўсе пытанні нунцыя ксёндз Алег цвёрда адказаў: “Так, хачу!”

Наступны момант абраду кансэкрацыі – малітва да ўсіх святых. У гэты момант Касцёл прызывае нябесных заступнікаў дапамагчы нам, хто жыве цяпер на гэтай зямлі, ісці дарогай збаўлення. Падчас гэтай малітвы біскуп намінант ляжыць ніц перад касцельным алтаром. Сярод святых, якія былі ўзгаданыя ў гэтай малітве, было і імя Язафата Кунцэвіча, які трагічна загінуў у Віцебску амаль чатыры стагоддзі таму.

Адразу пасля малітвы распачаўся галоўны момант кансэкрацыі – ускладанне рук. Гэта сімвалізуе перадачу ўлады ад саміх апосталаў. Першым рукі ўсклаў арцыбіскуп Гуджэроцці, затым гэты абрад выканалі ўсе прысутныя біскупы. Далей была прачытаная спецыяльная малітва, падчас якой над галавой будучага біскупа трымалі разгорнутую кнігу Евангелля. Гэта паказвае тое, што біскуп павінен у першую чаргу несці людзям Добрую вестку.

Далей прайшоў абрад памазання біскупа святым алеем. У адрозненне ад намашчэння прэзбітараў, якім намашчаюць толькі рукі, біскупу памазваецца галава, што сімвалізуе яго ўладу ў касцёле. Пасля гэтага абраду біскуп Алег атрымаў з рук нунцыя Святое Евангелле са словамі: “Прымі Евангелле і абвяшчай Божае слова з усёй цярплівасцю і ўменнем”.



Пасля ўручэння Святога Пісьма біскупу Алегу ўручылі сімвалы біскупскай улады – персцень, мітру і пастарал. Персцень носіцца на безымянным пальцы правай рукі і сімвалізуе вернасць біскупа касцёлу і яго ўладу ў ім. Мітра – гэта галаўны ўбор біскупа, які яны носяць падчас Святой Імшы. Яна складаецца з дзвюх частак, што сівалізуе адзінства Старога і Новага запавету. Пастарал – гэта біскупскі посах, сімвал пастырскай улады, якім ён павінен ахоўваць свой божы статак. Пасля ўручэння біскупскіх адзнак кожны з біскупаў, што прысутнічалі на абрадзе, падараваў новаму біскупу пацалунак супакою, знак еднасці Каталіцкага Касцёла.

Пасля гэтага біскуп Алег такім самым пацалункам прывітаў сваіх бацькоў і сясцёр, якія прысутнічалі на ўрачыстасці.

З віншавальнымі словамі да біскупа і ўсіх прысутных звярнуўся Апостальскі нунцый арцыбіскуп Клаўдзіё Гуджэроцці. Ён падзякаваў бацькам за такога сына, асаблівую ўвагу звярнуўшы на ролю маці ў выхаванні дзяцей. Па словах нунцыя, мама – гэта як уся беларуская зямля. Яна дала свайму сыну жыццё, малако, мову і культуру, і яго доўг - усё гэта зберагчы.

На знак паслухмянасці новаму біскупу ўсе святары Віцебскай дыяцэзіі пацалавалі біскупскі персцень. “Я не перастаю быць для вас братам”, – з такімі словамі біскуп Алег Буткевіч звярнуўся да святароў дыяцэзіі, паабяцаўшы, што ён не ператворыцца ва ўдзельнага князя, і яго дзверы заўсёды будуць адкрытыя для ўсіх, хто шукае Божага слова.

Потым новага біскупа павіншавалі прадстаўнікі праваслаўнай царквы, якія зачыталі прывітальны ліст ад арцыбіскупа Віцебскага і Аршанскага Дзмітрыя, ад свецкай улады было абвешчана прывітальнае слова ад кіраўніка Віцебскай вобласці Аляксандра Косінца.

На заканчэнне біскуп Алег Буткевіч падзякаваў усім прысутным за ўдзелва ўрачыстасці і ўдзяліў сваё першае біскупскае благаслаўленне.

Пасля адбылася кароткая прэс-канферэнцыя, дзе навапрызначаны біскуп адказаў на пытанні журналістаў. Сярод іншага, ён адзначыў, што рэвалюцыі не плануе, а будзе працягваць добрыя справы свайго папярэдніка – першага біскупа Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслава Бліна.

Нагадаем, Алег Буткевіч нарадзіўся 18 сакавіка 1972 годзе ў Браславе. Скончыў Беларускі дзяржаўны аграрны тэхнічны ўніверсітэт, пасля паступіў у Гродзенскую духоўную семінарыю. Прэзбітарскае пасвячэнне атрымаў 13 мая 2000 года. Быў вікарыем у Бешанковічах і Уле. З 2003 года пробашч парафіі св. Антонія Падуанскага ў Віцебску. 29 лістапада мінулага года папа Францішак прызначыў ксяндза Алега біскупам Віцебскай дыяцэзіі.



## АДАІ Глыбоцкага раёна інфармуе:

# Аперацыя «ПЕШАХОД»

А.І.Завадскі,
*часовы выканаўца начальніка АДАІ, маёр міліцыі.*

**З 24 студзеня па 31 студзеня 2014 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіцца адмысловая аперацыя «ПЕШАХОД» накіраваная на прафілактыку ДТЗ з удзелам пешаходаў.**

**Паважаныя пешаходы!** Хацелася б нагадаць Вам пра тое, што пешаход паводле правіл дарожнага руху надзелены не толькі правамі, але і абавязкамі, якія ён беспярэчна павінен выконваць.

Пешаход абавязаны:

**1.** Рухацца па тратуару, пешаходнай дарожцы, а пры іх адсутнасці – па абочыне дарогі.

У выпадку адсутнасці ўказаных элементаў дарогі ці немагчымасці руху пешаходаў па іх, дапушчаецца рух пешахода па краі праезнай часткі насустрач руху транспартных сродкаў, што часта, па незразумелых прычынах, ігнаруецца пешаходамі ў нашым горадзе, дзе мы назіраем іх рухомымі нават пасярод праезнай часткі, што можа прывесці да цяжкіх наступстваў.

Пры руху па краі праезнай часткі дарогі ў цёмны час сутак пешаход павінен пазначыць сябе светазваротным элементам.

**2.** Пераходзіць (перасякаць) праезную частку дарогі, па наземным пешаходным пераходзе пераканаўшыся, што выйсце на праезную частку дарогі бяспечны. Пры адсутнасці пешаходнага пераходу пераходзіць праезную частку на скрыжаванні па лініі тратуараў ці абочын. Дадзеныя патрабаванні правіл дарожнага руху таксама груба парушаюцца пешаходамі. Пешаходы часта не задумваюцца пра магчымыя сумныя наступствы, калі, не пераканаўшыся ў бяспецы сваіх дзеянняў, выходзяць на пешаходны пераход перад надыходзячым транспартам, яшчэ і размаўляючы па тэлефоне, не зважаючы на транспартныя сродкі. Перад здзяйсненнем пераходу вуліцы трэба ўлічваць такія фактары як рэакцыя кіроўцы, стан праезнай часткі, досвед кіроўцы, спраўнасць транспартнага сродку. Трэба заўсёды памятаць пра тое, што пешаход з'яўляецца самым уразлівым і неабароненым удзельнікам дарожнага руху і дарожныя аварыі з удзелам пешаходаў маюць, як правіла, цяжкія наступствы. З 12 дарожна-транспартных здарэнняў, здзейсненых у 2013 годзе, вінаватымі ў іх здзяйсненні з'явіліся самі пешаходы, што кажа пра тое, што самыя недысцыплінаваныя ўдзельнікі дарожнага руху – пешаходы.

Асноўнымі прычынамі гібелі і ранення пешаходаў з'яўляюцца: раптоўнае выйсце на праезную частку як пры наяўнасці пешаходных пераходаў, так і пры іх адсутнасці, раптоўнае выйсце пешаходаў на праезную частку з-за стаячага транспартнага сродку, знаходжанне на праезнай частцы ў п'яным выглядзе, пераход дарогі ў неўсталяваных месцы.

З мэтай папярэджання дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам пешаходаў у г. Глыбокае супрацоўнікамі АДАІ будуць праводзіцца мерапрыемствы, накіраваныя на выяўленні парушэнняў ПДР пешаходамі, а таксама на выяўленне недысцыплінаваных кіроўцаў, якія не прапускаюць пешаходаў, што распачалі рух па пешаходным пераходзе.

Найбольшую недысцыплінаванасць пешаходы праяўляюць у вячэрні час і ў выходныя дні на вул. Леніна, пераходзячы вуліцу ад малога рынка да «Еўраопту» і побач крамы «Рагнеда», груба парушаючы правілы пераходу вуліц, пераходзячы вуліцу паза пешаходнымі пераходамі, хоць яны размешчаны ў зоне бачнасці пешахода.

Загадзя папярэджваем пешаходаў пра адміністратыўную адказнасць за парушэнні правіл дарожнага руху:

Арт. 18.23 частка 1 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжвае штраф у памеры ад 1 да 3 базавых велічынь г.зн. ад 35 да 105000 рублёў.

Арт. 18.23 частка 2 КоАП Рэспублікі Беларусь, парушэнне ПДР пешаходам, здзейсненае ў стане алкагольнага ап'янення, а роўна адмова ад праходжання ва ўсталяваным парадку праверкі (агляду) на прадмет стану алкагольнага ап'янення цягне накладанне штрафу ад 3-х да 5 базавых велічынь, г.зн. ад 105000 да 175000 рублёў.

Арт. 18.23 ч.3 КоАП Рэспублікі Беларусь, здзейсненне пешаходамі парушэнняў ПДР, якія пацягнулі стварэнне аварыйнага становішча цягне за сабой штраф ад 3-х да 8-мі базавых велічынь, г.зн. ад 105000 да 280000 рублёў.

Заклікаем усіх удзельнікаў дарожнага руху да праявы ўважлівасці і ўзаемапавагі. Выконваючы Правілы дарожнага руху, усцеражыце сябе і сваіх блізкіх ад траўміравання ў аўтааварыях. Правядзіце гутаркі са сваімі дзецьмі на тэму выканання правіл дарожнага руху пры знаходжанні на вуліцы. Памятайце, што Вас чакаюць дома.

# Прыватныя Абвесткі









### Аўтамабілі на продаж:

Аўдзі-80, 1986г.в., перахадная, 1,8к, 5МКПП, срэбны, новая зімовая гума, ТА, новы карбюратар, 2000у.а., торг. Т.: 8-029-715-45-00(мтс)

Аўдзі-80, 1988 г, 1.8, бензін, у добрым стане, 3100 у.а. Тэл. 8-033 307-45-35,8-044 78-281-35

ВАЗ-2104, Б, белы. Т.: 595-48-68

ВАЗ-21063, 1984г.в., на хаду, рабочы стан, ТА, страхоўка, 500у.а., торг. Т.: +37529-897-44-83 (мтс)**

ВАЗ-2103, 1981г.в., 1,3Б, бежавы, выдатны стан, 1000у.а. Т.: 218-49-68(мтс)

ВАЗ-2106, 1989г.в., зялёны. Т.: 8-033-678-25-12

ВАЗ-2107, 1988г.в., добры стан, 1000у.а. Т.: 296-15-98, 611-15-03

ВАЗ-21063, 1991 г. Адзін гаспадар. Тэл. 8-029-939-54-03

ВАЗ-2107, 1984г.в., выдатны стан. Т.: 612-48-25(мтс)

ВАЗ-2105, 1993г.в., патрабуе рамонту рухавіка. Т.: 266-80-93

ВАЗ-2108, 1991г.в., чырвоны, 4,5млн. руб. Т.: 266-80-93(мтс)

ВАЗ-2106, 1987г.в., 1,3Б, ц\чырвоны, добры стан. Т.: 544-82-62

Опель-Вектра В, 2001г.в., 2,2ТДі, клімат, круіз, эл\люстэрка, эл\падымальнікі, л\д, 7400у.а. Т.: 8-033-696-50-30

Опель-Астра, хэтчбэк, 1,7Д, 1992г.в., чырвоны, гаражнае захоўванне, г\у, ц\з, велюр, люк, галагенкі, анцікор. Т.: 8-033-342-42-07(мтс)**

Опель-Амега, 1990г.в., 2,0Б, універсал, 2500у.а. Т.: 8-033-329-51-91**

Опель-Астра, 1993г.в., 1,6Б, хэтчбэк, белы, 2200у.а. Т.: +37529-893-96-23

Опель-Астра, 1994г.в., універсал, 1,7ТД (японец), сіні перламутр, кузаў не вараны, добры стан, 2900у.а. Т.: 266-80-93(мтс)

Опель-Астра, універсал, 1,6 мона. Т.: 812-02-93*

Опель-Вектра, 1993 г/в, 1.8 газ-бензін, шэрачорны, сігналізацыя, зімовая гума, тэхагляд, страхоўка, 2900 у.а., торг, ці абмяняю. Тэл. 8-029 516-17-41, 8-033-371-87-21

Опель-Вектра, 1990г.в., 2,0і, патрабуе укладанняў, або абмяняю. Т.: 345-37-03(мтс)

Опель-Вектра, 1992 г.в., 1.7 турбадызель, ёсць праблемы. Тэл. 8-033-306-26-24

ФВ-Гольф-2, 1988г.в., 1,6Б, 5-дзвёрны. Т.: 595-48-68

ФВ-Пасат В5, 1997г.в., срэбны перламутр. Т.: 8-029-713-90-49

ФВ-Гольф-3, 1993г.в., 1,9Д, зялёны ўніверсал, 3500у.а., добры стан. Т.: 8-029-174-63-17

ФВ-Джэта, 1987г.в., 1,6Д, ц\шэры металік. Т.: 8-033-695-30-41*

ФВ-Пасат В3, 1991г.в., 1,8Б, універсал, вішнёвы металік, 3450у.а. Т.: 8-029-328-68-63

ФВ-Пасат,1992г.в.,1,8Б, вішнёвы ўніверсал, зімовая гума, выдатны стан. Т.:8029-519-48-83(мтс)*

ФВ-Пасат В4, 1994 г, 1.9 дызель, цёмна-сіні. Тэл. 8-029 703-91-34

ФВ-Гольф-2, 1988г., 1.8 бензін, цёмна-сіні металік, у добрым стане.Тэл.8-029-898-97-83

ФВ-Гольф-3, 1993 г.в., 1.4 мона, серабрысты металік, 3.500 у.а. Торг дарэчны. Тэл. 8-029-89-000-51

Форд-Галаксі, 1995г.в., 2,0Б.Т: +37533-337-80-51*

Рэно-Кліма, 2003г.в., 1,2Б, чырвоны, 5800у.а. Т.: 713-38-34(мтс)***

Рэно-Кліа, 1991г.в., 1,2Б, чырвоны, 5-дзвёрны, 2450у.а., торг. Т.: 8-033-375-10-11

Рэно-Лагуна, 1996г.в., 1,8Б, сігналізацыя, МР-3-флэш магнітола, 3000у.а., торг. Т.: 890-08-91(мтс) (Лёша)*

Рэно-Сцэнік, 2000г.в., 1,9ДСі, 220тыс. км, кандыцыянер, эл\пакет, эл\шкло, эл\люстэрка, л\д, 6650у.а. Т.: +37529-276-87-49

Пежо-207, 2008г.в., 1,4Б, чорны хэтчбэк, 5-дзвёрны, 35 тыс. км, 5МКП, кандыцыянер, эл\пакет, эл\шкло, эл\люстэрка, г\у, ц\з, 9250у.а. Т.: +37529-745-65-06

Пежо-308, 2008г.в., Б, зялёны хэтчбэк, клімат, эл\пакет, падагрэў сёдлаў, 8ПБ, АБС, ЕСП, выдатны стан, нядорага. Т.: 897-23-02(мтс)

Сітраен ZX, 1992г.в., 1,4і,добры стан,1350у.а. Т.: 8033-383-30-00

Сітраен-Пікасо, 2000г.в., 2,0ТД, клімат, новая гума, адзін гаспадар у РБ, падагрэў паліва ў баку, заменены расходнікі, 6800у.а., торг. Т.: 8-044-787-57-08(в)

Сітраен-Пікасо, 2003г.в., 2,0НДі, срэбны,7450у.а., торг.Т.: 8-029-713-18-82 (мтс)**

Фіат-Пунта, 2004г.в., 1,4Б, срэбны, клімат-кантроль, АБС, 4ПБ, супрацьтуманкі, л\д з новай зімовай гумай, поўны эл\пакет, паркт-ронік, выдатны стан, ТА, нядорага. Т.: 897-23-02(мтс)

Фіат-Марэа, 2002г.в., 1,9Д, універсал, сіне-фіялетавы металік, ПБ, ц\з, эл\люстэрка, г\у, кар.фар., добры стан, заводзіцца без праблем на марозе, 5600у.а. Т.: 8-029-140-80-84(в)

Мэрсэдэс-Спрынтар, 1998г.в., 2,9ТД, спарка, добры стан. Т.: 217-05-22(мтс), 801-00-08(мтс)****

Таёта-Авенсіс, 2007г.в., 2,0ТД, чорны, выдатны стан, 15500у.а. Т.: 893-32-46

Таёта-Ярыс, 2003-2004г.в., 1,3Б, 5-дзвёрны блакітны металік. Шкода-Феліцыя, 1997г.в., 1,3Б, 5-дзвёрны зялёны металік. Т.:8-029-593-96-78 (мтс)

Таёта-Ярыс, 2010г.в., 1,0Б, кандыцыянер, парктронік, эл\люстэрка, 3-дзвёрная, 8950у.а. Т.: 713-63-05(мтс)*

Шкода-Супер Б, 2004г.в., 1,9ТДі, чорны металік, добры стан, ТА. Т.:8-029-713-21-84 (мтс),8044-774-55-59 (в)

Ровер-200, 2000г.в., Б, МКП, эл\шкло, 5-дзвёрны хэтчбэк, АБС, СД-магнітола, абагрэў люстэрак, 4550у.а. Т.: +37529-591-43-50

Міцубісі-Лансер, 1990г.в., 1,5Б, серва-руль, добрая гума, 5КПП, седан, 2150у.а. Т.: 719-62-39(мтс)

Газэль бартавую, або абмяняю на л\а. Т.: 345-37-03(мтс)

ЗІЛ-130, Г\Б, 2650у.а. Т.: 713-63-05(мтс)*

Масквіч.Т.8029-21600-90

Волга, ГАЗ-24. Тэл. 8-029 182-78-59 Велком

### Куплю машыны, трактары, прычэпы, матацыклы:

**Іншамарку ў любым стане, з любымі праблемамі.** УНН391155943. **Т: 8029-515-47-92** (мтс)+

Іншамарку ў любым стане. *Ліц.№22380\0037920ад23.03.2004г. выд. Полацкім РВК да18.05.2-013г.ІПФіліпсонС.І.-УНП223800390881* Т.210-31-82(мтс), 641-88-36(в)+

Іншамарку, можна аварыйную, ёсць эвакуатар.УНП 391054913. Т.: 8-029-518-12-59(мтс), 8-029-715-46-92(мтс)+5

Куплю іншамарку любой мадэлі, можна з праблемамі ці аварыйную. Тэл. 8-029-297-88-52+

Куплю Ваш аўтамабіль. УНН391051730. Т.: 8-033-342-42-07+5

### Прадам трактары, прычэпы, матацыклы, лодкі:

Трактар самаробны, Б. Т.: 8-033-645-96-89, 3-13-21

Квадрацыкл LINHAI-YAMAHA 200 2х4, 2013г, чорны, карданны прывад, камплектуецца электронным спідометрам і тахометрам, дадатковым масляным радыятарам ахаладжвання, ахова рук і рухавіка, лябёдка, задні корф, шноркелі, супрацьслізгавыя ланцугі. Т.: 8-029-510-26-70*

Збожжаўборачны камбайн «Колас», у рабочым стане. Тэл.8-029-361-06-64 велком

### Прадам запчасткі:

Да Аўдзі-80, А4, В4, А6, А 8, В4, С4; БМВ-Е-39; Кіа-Кларус, Шума; Нісан-Прэм'ера, Альмера, Х-Трэйл І-31; Опель-Вектра В, Амега В, Астра G, Франтэра В; ФВ-ГольфІІ, ІІІ, IV, Джэта, Пасат В 3,4,5,6; Пежо-106, 206, 405, 406,806; Мазда-626, 2,6; Форд-Мандэа, Транзіт, Фокус, Гэлаксі, Ф'юнан; Рэно-19, Меган, Кліа, Лагуна 1, 2,Сцэнік,Эспайс, Сандэра, Маскат; Таёта-Карола ,Ярыс; Вольва-440,460,ВольваV40; ХС70; Дэо-Нубіра, Леганза; Мерседэс-W 201,W202, 203, W210, Віта; Сітраен-Сакса, ZX,Эвазіон, Ксара; Сеат-Ібіца, Кардоба; Міцубісі-Лансер, Галант; Субард-Фарэстар,2007г.в.; Фіат-Пунта 2. Асартымент запчастак пастаянна змяняецца і павялічваецца мадэльны шэраг аўтамабіляў.Т:292-99-33(мтс), 338-71-83(в), 210-31-82 (мтс) *Ліц. №22380\ 0037920ад23.-03.2004г.выд.Полацкім-РВКда18.05.2013г. ІП ФіліпсонС.І.-УНП223800390881*+

Мэрсэдэс EW-210, 2,9ДД, 1997г.в., седан, па запчастках, ёсць усё. Т.:8-029-218-40-01(мтс), 8-029-142-63-30(в)+5

Опель-Аскона 1,6Д і Опель-Кадэт 1,3Б, па запчастках. Т.: 812-48-08(мтс)*

Запчасткі б\у да іншамарак: ФВ-Пасат, Джэта, Вента,Гольф, Аўдзі-100, 80, Пежо-406, 605, 206, 307,Сітраен-Ксантыя,Эвазіон, Ксара, Рэно-Сцэнік,19,Меган, Лагуна, Кліа, Форд-Эскорт, Сіера, Арыён,Фокус, Транзіт, Хундай, Акцэнт-,Опель-Астра, Вектра, Амега. Фіат-Пунта.УНП 391054913. Т.:8-029-715-46-92(мтс), 8-029-518-12-59(мтс)+5

Рухавік у зборы да Форд-Транзіт, 2,5ТД, добры. Т.: 8-029-713-18-82

Опель-Амега А, 1988г.в., 1,8к, на хаду, на запчасткі, знята з уліку. Т.: 592-45-54(мтс)***

ВАЗ-2105, па запчастках. Ёсць усе запчасткі. Т.: 8-033-358-80-18(мтс)

Опель-Вектра 1991г.в., Опель-Астра 1996г.в., 1.7 ТД, Опель-Амега 1991г.в.2,3ТД, ФВ-Пасат Б-3,1991г.в.1.6ТД.,Форд-Сіера, 1991г.в. Усё па запчастках. Т:8029-892-15-85(мтс)

Пежо-405, 1994г.в., 1,9Д, універсал. Пежо-406, 2000г.в., 2,0НДі, універсал. Рэно-19, 1994г.в., хэтчбэк, седан. Форд-Транзіт, 1997г.в., 2,5Д, база R15, на хаду. Газэль-3302, ДВС-402, 406. Па запчастках. УНН391058299. Т.: 8-029-678-95-06(в)***

Паліўны насос ад Аўдзі-80, ФВ. Т.: +37533-648-29-22

Л\д Шкода-Актавія R15 на новай летняй гуме. Т.: 337-22-27(мтс)

Гуму зімовую R15 195\65, 205\60\R16, 185\70\R14. Т.: 8-044-788-06-13(в)**

Гуму зімовую 195\65\R15 Матадор (Славакія)2 колы, 90у.а. Т.: 8-029-896-50-14*

Гуму з металічнымі дыскамі 205\55\R16 M+S Нокіан для Аўдзі, ФВ, 5шт. Т.: 896-35-13(мтс)

Дыскі стальныя R15 4х100 на Опель, ФВ. Дыск стальны 1шт. да Пежо, Сітраен, на 4 балты. Т.: 8-033-611-04-98*

Дыскі жалезныя R16 да ФВ, Аўдзі. Т.: +37529-276-87-49(мтс)

4 колы для цяжкіх матацыклаў. Т.: 211-47-43(мтс)

Монаўпрыск ад а/м Опель-Астра 1.4, бензін. Тэл. 8-029-518-49-37

### Куплю запчасткі:

Кузавы аўтамабільныя бітыя, гнілыя, л\а з дэфектамі, стартары, генератары, акумулятары, радыятары, для сябе. Т.: 345-37-03(мтс)*

Гуму да Т-25 заднюю, б\у. Т.: 8-033-641-76-72*

Рухавік ЗАЗ-968, Юпітар 4,5. Т.: 714-04-89(мтс), 3-12-46

Турбіну да а/м МАЗДА-626, 2.0, дызель, турбакампрэкс. Тэл.3-12-34 (Глыбокае)

### Прадам нерухомасць:

Дом цагляны, цэнтр, газ, гараж і хлеў цагляныя. Т:2-23-75, 8-033-307-80-08 (мтс)+1

Паўдома ў Глыбокім, 2 пер. 3 ліпеня, 16, кв.1., без выгод, газ і вада побач, гараж, хлеў, 10000у.а. Т.: 8-033-306-26-88+4

Кватэру 4-пакаёвую ў Глыбокім, аг. пл. 102м², еўрарамонт, гараж, кошт па дамове. Т.: 8-029-714-44-65(мтс), 8-029-514-44-05(мтс)*

Кватэру 2-пакаёвую, вул. Камуністычная, 5, кв.14, кошт па дамове. Т.: 8-015248-46-73 (суседка), 890-31-87(мтс)

* ЗАЎВАГА: калі ў абвестцы не пазначаны код горада, уладальнік тэлефоннага нумару знаходзіцца ў Глыбоцкім раёне.

Дом у Глыбокім 118 м², вада, шклопакеты, газ, 2 гаражы 10х6 цагляныя, 7 сотак, з мэбляй. Т.: 249-72-22(мтс)*

Кватэру 4-пакаёвую з выгодамі, вул. Мінская. Т.: 599-43-68****

Кватэру 2-пакаёвую ў Докшыцах, усе выгоды, добры рамонт. Т.: 8-029-931-39-50

Дом у Глыбокім, вул. Шпітальная, 17,11000 у.а.Т.:8033-317-04-04**

Кватэру 2-пакаёвую з усімі выгодамі, гараж, 2 хлявы, г. Глыбокае. Т.: 713-37-84(мтс), 519-18-88***

Кватэру 2-пакаёвую ў а\г Крулеўшчына (прыродны газ). Т.: 8-029-599-05-38

Дом у 2-х узроўнях у Глыбокім: на першым узроўні гараж на 2 машыны, падвал і кацельня, на другім узроўні драўляны дом, абкладзены цэглай, аг. пл. 104м², з усімі выгодамі (газавае ацяпленне, вадаправод, месная каналізацыя). Ёсць хлеў, 0,08га зямлі). Т.: 8-029-296-67-22 (мтс), 2-43-40****

Дом у вёсцы Мярэцкія. Т.:+37529-254-21-02(мтс), +37525-934-48-75(л)

Дом без камунікацый у цэнтры горада, 25000у.а. Т.: 8-033-360-78-82

Дом у Глыбокім. Т.: 8-029-213-01-39(мтс)*

Кватэру 2-пакаёвую без выгод, 2-і паверх, вул. Фізкультурная, 6\3, 9000у.а. Т.: 5-03-73, 818-60-42*

Дом у цэнтры горада. Т.: 8-029-298-15-29(мтс)

Гараж у р-не ліцэя. Т.: 8-029-813-33-27

Дом, станцыя Крулеўшчына, тэрмінова. Тэл. (8-029) 855-17-00

Дом драўляны ў 3 км ад г. Докшыцы, агульная пл. 66 м/кв, зямельны ўчастак 24 соткі, вада, лазня, гараж, хлеў, магчымасць падключэння да газавага ацяплення ў 2014г. Тэл. 8-029-59-79-138

Дом у г. Глыбокае, 60.000 у.а., пл. 100 м/кв., 2012 г. Тэл. 8-029 810-04-70

Кватэру. Т.: 876-56-63

Дом пад дачу ці знос у Шаркоўшчынскім раёне. Тэл. 8-029 622-26-74

Кватэру 2-пакаёвую, 41 кв.м, раён Беразвечча. Тэл. 8-029-212-34-21

Кватэру 2-пакаёвую ў Шунеўцах, 50.3 кв.м, с/в паасобны, склеп, 3 паверх, хлеў. Тэл. 8-029 144-03-74 Велком, 8-033 648-73-48 МТС

Дом у г/п Шаркоўшчына. Тэл. 8-033-359-68-78

## Куплю нерухомасць:

Кватэру 2-3-пакаёвую, р-н Міра, Маладзёжнай. Т.: 8-029-809-05-43 (мтс)

Дом з усімі выгодамі, пажадана ў в. Арэхаўна, Барок, Абруб-Беразвецкі. Т.: 306-73-18(мтс)*

Кватэру 2-х або 3-пакаёвую ў р-не МКК. Т.: 8-033-677-60-63****

Кватэру 2-пакаёвую ў р-не МКК. Т.: 269-40-29(мтс), 716-04-19(мтс)*

## Здыму:

Маладая сям’я здыме кватэру. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т.:+37529-592-22-30 (мтс)

Тэрмінова здыму жыллё на працяглы тэрмін, можна без мэблі. Т.: +37533-658-36-94 (мтс)**

Здыму кватэру на працяглы тэрмін. Парадак і своечасовую аплату гарантую. Т.: 817-79-96(мтс), 8-033-679-87-05(мтс)

Брат і сястра здымуць 2-пакаёвую кватэру з выгодамі. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т.: 8-029-591-41-96, 8-029-897-08-20*

Здыму кватэру ў Глыбокім на працяглы тэрмін, сям’я з 2-х чалавек. Своечасовую аплату гарантуем. Т.: 516-37-90(мтс)**

Маладая сям’я здыме жыллё ў Падсвіллі. Аплату і парадак гарантуем. Т.: 8-029-297-66-18

2 маладыя чалавекі здымуць кватэру ці пакой, у р-не ІК-13. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Тэл. 8-029-348-83-80

## Здам:

У гандлёвым цэнтры «Для Вас Плюс» здаецца ў арэнду гандлёвае памяшканне пл. 40,24 м². Т.: 8-029-719-23-93, 802156-2-31-29 (з9.00да19.00)*²

У гандлёвым цэнтры «Для Вас» здаецца гандлёвае памяшканне пл. 80м² і склад 26м². Т.: 2-31-29, 8-029-297-70-12****

Здам пакой. Т.: 2-16-79, 598-79-61

## Мы адкрыліся:

Адкрыўся магазін брэндавага адзення «СТОК», вул. Садовая,22\2, выхадны панядзелак, кожны тыдзень паступленне новага тавара. Т.: 8-029-638-23-51

## Мэбля на продаж:

Секцыю з шафай, антрэсолі, шпон дуба, выдатны стан. Т.: 8-029-646-42-92, 631-60-20

Выраб мэблі: кухні, шафы-купэ. Якасць, кароткія тэрміны. Нядорага. УНП391054410. Т.: 513-34-12**

Секцыю «Заслаўль» 4м. Прыхожую 2м. Канапу + 2 крэслы. Т.: 8-029-714-44-65(мтс)

Вуглавую канапу з крэслам, раскладваецца ўперад, еўракніжка, дыван авальны, шторы з ламбрэкенам, ручная работа, прыгожыя. Усё б\у. Т.: 2-15-06, 8-029-594-20-44**

Мэблю б\у: шафу 4-дзвёрную з антрэсолямі, стол пісьмовы, канапу, люстры б\у 2шт., эл\пліту 2-канфарную новую, альтанку 2,5х2,5м. Т.: 8-029-291-79-59**

Стол камп’ютарны вуглавы + пенал. Т.: 8-029-896-50-14*

Дзве шафы 2-дзвёрныя з антрэсолямі, б\у. Т.: 299-12-00(мтс)

Ложак 1-спальны, 1,3млн. руб. Т.: 8-029-714-44-65(мтс)

Шафу з антрэсолямі 2-дзвёрную, б\у. Т.: 898-87-53

Мяккі куток (новы). Стол пісьмовы. Секцыю. Т.: 8-029-813-33-35***

Секцыю, крыху б\у, нядорага. Тэрмінова! Т.: 564-69-76(мтс)

Мэблю б/у: секцыю 3.2, спальню, кухню 2.6, у добрым стане, танна. Тэл. 8-029-513-71-31

## Прадам аўдыё-відэа, музычныя інструменты:

Лазар-радар-дэтэктар «WHISTLER-XTR-335» з галасавым паведамленнем, відэарэгістратар «Ritmix-AUR-330» . Аўтамабільны відэарэгістратар з GPS радар-дэтэктарам з галасавым паведамленнем GR-88. Усё новае, гарантыя 1 год. Т:8-029-514-18-40(мтс)**

## Куплю аўдыё-відэа, музычныя інструменты:

Балалайку. Т.: 517-46-14⁺

## Прадам камп’ютары і камплектуючыя:

Планшэт Huawei Media Pad 7, на гарантыі. Т.: +37529-710-92-64(мтс)

## Прадам катлы, сантэхабсталяванне:

Кацёл у лазню. Т.: 597-25-12(мтс)

Кацёл у лазню. Т.: 306-55-63(мтс)

Батарэі чыгунныя новыя па 85000 рублёў рабро. Тэл. 8-029-595-95-95

Арыгінальнай канструкцыі ў адзінкавым экземпляры кацёл для лазні. Т.: 8-033-697-99-96 (мтс)**

## Куплю катлы, сантэхабсталяванне:

Батарэі ацяплення чыгунныя, б\у. Т.: 8-044-777-32-60*

## Прадам будматэрыялы:

Дзверы міжпакаёвыя філёнчатыя са шклом, з каробкай, 2,0х0,80, выдатны стан, драўляныя, 400 тыс. руб. Т.: 713-95-16(мтс)

Шыфер б\у 8-хвалевы, 30тыс. руб\шт. Пліты перакрыцця (пустоткі) б\у, 1,2х6м, 1,5х6м, 1,4 млн. руб\шт. Бочку 5т, 450у.а., пад каналізацыю. Цэглу чырвоную адзінарную, 2000руб\шт., б\у. Т.: 8-029-714-60-41 (мтс)**

Дзверы драўляныя, шырыня 1м, даўжыня 2,08м, 800тыс. руб. Т.: 297-34-18*

Вокны драўляныя зашклёныя, шыр. 1,5м, даўжыня 2м, 800тыс. руб. Т.: 297-34-18*

Паддоны драўляныя б\у, 22шт., з-пад цэглы, 30 тыс. руб. Т.: 297-34-18*

Цэглу белую новую 7 паддонаў, у паддоне 288шт., 2500 руб.\шт. Т.: 297-34-18*

Лінолиум б\у. Т.: 296-70-63(мтс)

Дошкі, балкі, лагі. Т.: 812-34-43***

## Прадам тэлефоны:

Nokia X-2-02, чорны, флэшка 2Гб, на гарантыі, выдатны стан, 75у.а. Т.: +37529-213-22-63 (мтс)

Nokia-C-500 смартфон, б\у, выдатны стан, поўны камплект, дакументы, арыгінал. Т.: 679-68-72(мтс)

Nokia-6700, металічны корпус, камера 5Мгп, блютуз, каробка, дакументы, навушнікі, 100у.а. Т.: 714-14-73(мтс)

Nokia-Люмінэ-800, арыгінал, поўны камплект, аперацыйная сістэма Віндаўс, 200у.а., выдатны стан. Т.: 714-14-73

Samsung GT-C 3300K, добры стан. Т.:+375-29-717-69-38 (мтс)**

Samsung Android SIII 9300. Т.: 375-29-711-46-65 (мтс)**

Samsung GT-S5610, новы, 1,2 млн. руб. Т.: 813-33-22

Samsung-7562 Андроід, экран 4дз., памяць 4Гб, камера 5Мп, 2 актыўныя сім-карты, белы, новы, 195у.а. Т.: 8-029-590-72-21(мтс)*

Samsung, 2 сім-карты, блютуз, камера, новая батарэя, 400 тыс. руб. Т.: 8-029-515-11-37

Samsung S-5230, сенсорны, 3,5дз., 3,2 камера, блютуз, інтэрнэт, навушнікі, MP-3, флэш-карта на 4Гб, 400 тыс. руб. Samsung, слайдар (арыгінал), бардовы, усе опцыі, навушнікі, выдатны стан, 350 тыс. руб. Т.: 372-44-37

## Бытавая тэхніка і газавае абсталяванне на продаж:

Халадзільнік 2-камерны «Снайга». Т.: 517-46-14⁺

Тэлевізар «Віцязь» б\у. Т.: 296-70-63(мтс)

Тэлевізар «Гарызонт» б\у, добры стан. Т.: 2-94-24 (пасля 18.00)

Пліту газавую «Гефест», новая, 2,5 млн. руб. Т.: 663-52-60(мтс)

Тэлевізар «Самсунг CS-29Z30HSO» з тумбачкай у камплекце, чорны з шэрым, б\у, добры стан, дыяг. 72см, 2,450млн. руб. Т.: 8-029-712-99-10*

Тэлевізар «Панасонік» б\у, 72см, плоскі экран, выдатны стан, 1,7млн. руб. Т.: 8-029-510-59-97***

## Куплю бытавую тэхніку і газавае абсталяване:

Бойлер б\у на 80-100л. Т.: 595-48-68

Пральную машыну-паўаўтамат б\у, пажадана маленькіх аб’ёмаў. Т.: +37529-837-50-50*

## Прадам еміну:

**Бульбу свежую з дастаўкай: вялікую, насенную і дробную. Т:514-21-76**(мтс)⁺⁷

Тушу кабана. Т.8029-811-10-83(мтс)*

Свініну, вельмі добрая, в. Азярцы, Асон М. Т.: 3-73-55, 514-72-88(мтс), 8-029-680-19-95(в)

Тушу кабана. Т.: 513-89-89

Тушу кабана. Т.: 345-28-22

Тушу або паўтушы кабана па 38тыс. руб\кг, з дастаўкай. Т.: 8-029-716-57-80, 8-033-372-45-91

Тушу кабана, 40000 руб. за кг. Тэл. 8-029-819-50-47

Палову тушы кабана па 40000 руб. за кг. Тэл. 5-09-15 (Глыбокае)

Сала свежае. Тэл. 8-033-612-45-03,2-43-99

Свежае сала. Тэл. 8-029-813-92-64

Яблыкі здымныя, 7тыс. руб\кг. Т.: 8-029-714-44-65(мтс)

## Прадам жывёлу, пчол, рыбак:

Рыбак акварыумных. Т.: 718-52-68(мтс)⁺³

Карову. Т.: 3-95-31 (пасля 18.00)

Шчанят ад нямецкай аўчаркі. Т:8-033-686-50-39(мтс)⁺¹⁰

Козачку маладую ад добрай казы. Т.: 8-033-301-12-59

Барана. Т.: 679-53-57(мтс)

Індакачак. Т.: 3-33-41, 519-91-60

Парасят. Докшыцкі р-н. Т.: 647-29-36(мтс), 8-02157-2-96-78**

Парасят в’етнамскай пароды. Т.: 8-02157-3-87-28

Маладых пеўняў. Тэл. 8-033-647-53-36

## Куплю жывёлу, пчол, рыбу:

Карову, быка, каня, цялушку, цяля. Т.:8029-597-59-08(мтс)⁺⁶

Дорага быка, карову, цяля. Т.: 8-029-899-25-42⁺¹³

Карову, быка, цяля, каня. Т.: 257-18-59⁺⁷

Быка, цяля, карову, вымушаны забой. Т.: 841-07-75⁺⁷

Карову, быка, каня, вымушаны забой. Т.: +37529-896-85-86**

БРС дорага. Т.: 8-033-999-27-69 (мтс), 8-029-904-66-36(в)⁺⁸

Карову, бычка, цяля, каня. Дорага. Тэл. 8-029-577-94-52

## Аддам жывёлу:

Аддам кацяня (хлопчык 3 мес.), вясёлы, самастойны, ахайны. Т.: 8-029-234-28-55

Аддам дамашніх кацянят, прывучаныя да туалета. Т.: 8-033-679-89-43 (мтс), 2-75-13

Аддам кацянят у добрыя, ласкавыя рукі. Тэл. 8-033-612-55-99

## Прадам тавары для дзяцей:

Каляску Джып, л\з варыянт, поўны камплект, выдатны стан. Т.: 8-029-293-39-54

## Прадам адзенне, абутак:

Футра нутрыевае жаночае, б\у 1 сезон, п-р 48. Т.: 898-87-53(мтс)

Паліто зімовае фіялетавае, каўнер фіялетавы пясец, п-р 58. Т.: 2-48-95

## Прадам паліва:

**Прычэп дроў з дастаўкай. Т.: 514-21-76(мтс)⁺¹⁰**

Сухія сечаныя дровы лісцевых парод, з дастаўкай. Т.:8-033-383-94-38(мтс)

Дровы. Тэл. 8-029-558-85-79

## Прадам збожжа:

Пшаніцу. Ячмень. Т.: 8-029-213-22-38

## Прадам сельгас-інвентар:

Хамут і аброць. Т.: 211-47-43(мтс)

## Куплю сена:

Салому ў рулонах. Т.: 8-029-714-87-71

## Куплю насенне:

Насенне тапінамбура. Т.: 8-033-345-27-91

## ІМЯНІНЫ

**23 студзеня**
**Пр.:** Анатоля, Макара, Паўла, Рыгора.
**К.:** Марыі, Фернанды, Раймунда, Яна.

**24 студзеня**
**Пр.:** Мікалая, Міхаіла, Уладзіміра, Фёдара.
**К.:** Мілены, Феліцыі, Эрыкі, Рафала, Роберта, Фелікса, Францішка, Цімафея.

**25 студзеня**
**Пр.:** Таццяны, Пятра, Савы.
**К.:** Папялец, Ірэны, Таццяны, Эльвіры, Генрыха, Мілаша, Паўла, Яна.

**26 студзеня**
**Пр.:** Елізара, Пятра, Якава.
**К.:** Ванды, Паўліны, Палікарпа, Цімафея, Ціта.

**27 студзеня**
**Пр.:** Ніны, Адама, Аўсея, Веньяміна, Івана, Ільі, Іосіфа, Ісака, Паўла, Сяргея, Сцяпана.
**К.:** Ангелікі, Анелі, Ілоны, Пшэмыслава, Юрыя, Яна.

**28 студзеня**
**Пр.:** Гаўрылы, Івана, Паўла, Прохара.
**К.:** Агнешкі, Аманды, Карыны, Аўгусціна, Валерыя, Пятра, Тамаша.

**29 студзеня**
**Пр.:** Максіма, Пятра.
**К.:** Ганны, Валерыя, Здзіслава, Зянона, Міхала, Францішка.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Штат в США | Псевдоним Авроры Дюпен | | Морское парусное судно | | Призрак, привидение | | Борнео |
| | | | | | | | Глаз |
| | Левый приток Алдана | | Плуг | | | | |
| | | | Атмосферные осадки | | | | |
| | Отрезок времени | Франц. ученый и политич. деятель | | ... души | | | |
| Футболист, чемпион мира | Единица площади | | | ЗИЛ | Немецкий поэт XVII века | | Владыка подзем. царства у этрусков |
| | | | | | | | |
| | Усадьба, хутор в Прибалтике | | | Закон Дюлонга и ... | | | |
| | Рок-группа из Коломны | | Преисподняя | | | | |
| | | | Итал. автомобиль | Левый приток Мокшы | | | |

**Ответы на сканворд № 03**
**По горизонтали:** Макама. Тофу. Колонка. Изба. Выгода. Нетто. Олух. Дар. Жако. Мэтр. Ёхор. Гримм. «Нерв». **По вертикали:** Отчизна. Мука. «Каллы». Ментол. Казах. Битва. Водоём. Гормон. Дуэт. Жир. Эре. Ров.

## Гараскоп на новы 2014 год

**АВЕН.** Цяжкасці і перашкоды толькі падганяюць у Авенаў жаданне іх пераадолець, і вы з гатоўнасцю працягваеце ісці ў гару. Справам вашым нічога не застаецца, акрамя як пакорліва ісці за вамі. Пераадоленне робіць поспех больш жаданым, а аналіз выдаткаваных высілкаў і праведзенай працы не толькі надасць вам упэўненасці ў вашай здольнасці справіцца з чым заўгодна, але і будзе карысны для планавання дзейнасці на тыдзень, не забудзьцеся ўспомніць аб дапушчаных памылках - вам жа не трэба зноў наступаць на тыя ж граблі? Магчыма, хтосьці пакутуе ад недахопу вашай увагі - прасцей аказаць яго ў прафілактычных мэтах, чым расхлёбваць наступствы.

**ЦЯЛЕЦ.** Што б вы там ні напланавалі, на гэтым тыдні ў расклад усё роўна прыйдзецца ўносіць змены. Будзьце да гэтага гатовыя, пажадана, каб з-за адной лішняй сустрэчы ў распарадку дня не ўзнікала крытычных парушэнняў. Першая палова тыдня будзе характарызавацца хутчэй дзелавымі навінамі, многія з якіх прымусяць вас задумацца аб неабходнасці змяніць пункт гледжання на нейкае пытанне. Другая ж, хочаш - не хочаш, павінна быць аддадзена блізкім, і лепш зрабіць гэта добраахвотна, чым пасля непрыемнай размовы з вылучэннем ультыматумаў. У цэлым Цялятам патрабуецца быць на паўкроку наперадзе, злёгку апярэджваючы падзеі - і тады ўсё пойдзе, як па алеі. Прыемным пабочным эфектам будзе ваш падрослы аўтарытэт.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вы камусьці вельмі патрэбныя. Ваша задача - зразумець, каму менавіта і навошта. Вашы сілы, уменне і здольнасці будуць у поўнай меры запатрабаваны ў тым выпадку, калі вы здолееце выкраіць досыць часу для іх прымянення. А гэта будзе няпроста - на гэтым тыдні вельмі многае будзе адцягваць вас і назойліва патрабаваць увагі. Прыйдзецца жорстка расстаўляць прыярытэты, магчыма, загадзя ідучы з кімсьці на канфлікт. Важна кампанаваць справы па магчымасці кампактней. Сумна не будзе, галоўнае - не перарвемся!

**РАК.** Удалы тыдзень, каб пачаць рэалізоўваць нешта маштабнае. У вас няма нічога такога на прыкмеце? Добра, тады пачынайце распрацоўваць маштабны праект чагосьці маштабнага - таксама справа не з маленькіх. Пачатак тыдня па магчымасці правядзіце па-за памяшканнем - па меншай меры, не ў адным. У гэты час вам прынясуць поспех раз'езды, менавіта пра такія дні кажуць «ваўка ногі кормяць». Ад летаніны адпачнеце ў сярэдзіне тыдня, гэтыя дні лепш падыдуць для мазгавога штурму. Выхадныя абяцаюць незабыўныя ўражанні, хочацца верыць, што ўспаміны пра іх у вас застануцца прыемныя.

**ЛЕЎ.** Львам падавай чаго-небудзь новенькага, нязбітае, і каб дух захоплівала. Жаданне цалкам зразумелае і выклікае павагу, аднак наўрад ці варта разлічваць на службу дастаўкі са сподачкам з блакітнай аблямоўкай. Выходзьце на паляванне за ўражаннямі самі. Гэта ўдалы час, каб навучыцца чаму-небудзь новаму, магчыма, не толькі прыемнаму як захапленне, але і карыснаму з прафесійнага пункту гледжання. Львы заўсёды чагосьці хочуць, так што прыдумаць, чым зацікавіцца, праблемы не складзе. У любым выпадку, калі парыў не будзе гвалтоўна пераадолены гераічным ляжаннем на канапе, тыдзень прынясе як мінімум новыя знаёмствы. Іншы плён з'явіцца пазней.

**ПАННА.** Паннам не перашкодзіла бы злёгку перадыхнуць: нешта вы ў апошні час перанапружыліся. А лепшы адпачынак, як вядома - змена віду дзейнасці. Так што далоў канапу і тэлевізар, чым вы там не спрабавалі займацца? Займіцеся. Калі абраны вамі адпачынак «апынецца карысным для гаспадаркі», грамадства здабудзе ў вашым твары на рэдкасць гарманічнага члена – па крайней меры да таго часу, пакуль і гэтая дзейнасць вам не надакучыць. А там і тыдзень скончыцца. Акрамя актыўнага адпачынку, тыдзень варта прысвяціць вырашэнню праблем. Не сваіх - свае ў любым выпадку прыходзіцца вырашаць у рэжыме нон-стоп. Чужых. У Паннаў прачнецца талент дапамагаць навакольным разрульваць няпростыя сітуацыі, а ўжо цікавасць да спраў блізкіх была заўсёды, яе і будзіць не трэба.

**ВАГІ.** Мэта апраўдвае калі не любыя сродкі, то як мінімум намаганні, на яе затрачаныя, нават калі навакольным здаецца , што аўчынка не варта вырабы. Узброеныя такой філасофіяй на гэтым тыдні Вагі прынясуць масу карысці, калі не чалавецтву ў цэлым, то, прынамсі, асобна ўзятай кампаніі ці хаця б сям'і. Так, для дасягнення мэты давядзецца аддаць усе свае і некаторую колькасць чужых сіл. Але гэта не тое, пра што Вагі будуць шкадаваць - наадварот, да канца працоўнага тыдня, злёгку паслабіўшыся, вы будзеце адчуваць задавальненне ад пачуцця поўнага задавальнення зробленым. Як на ўсё гэта рашыцца? Ды вельмі проста - пачынайце неадкладна, і не азірайцеся.

**СКАРПІЁН.** Вы камусьці нешта абяцалі? Тады выконвайце. Пажадана - паспець пачаць раней, чым вам пра гэта нагадаюць. Справіўшыся са справамі такога роду, трэба на некаторы час прытрымаць жаданне на радасцях наабяцаць яшчэ. Хочаце быць карысным - будзьце, але не ў будучыні, а прама ў цяперашнім часе. На гэтым тыдні за Скарпіёнамі будзе вадзіцца схільнасць некалькі пераацэньваць свае магчымасці, так што ёсць рызыка не толькі не выправіць сітуацыю з назапашанымі на дадзены момант абавязацельствамі, але і ўліпнуць у куды як больш сур'ёзныя праблемы..

**СТРАЛЕЦ.** Стральцам прыйдзецца асноўную ўвагу надаць прафесійнай дзейнасці, прычым выяўляючы максімальную абачлівасць. Пачатак тыдня прысвяціце разбору завалаў, калі такія існуюць, каб ісці далей з чыстым сумленнем і прыбраным працоўным сталом. Пазбягайце кантактаў з малазнаёмымі людзьмі, асабліва калі справа звязана з грашыма - зараз вам можна давяраць толькі сваім, ды і то не ленуючыся праверыць, ці не напартачылі чаго. Паклапаціцеся пра здароўе - вам цяпер ніяк нельга дазволіць сабе расклейвацца і прапусціць хоць дзень. Любую прапанову разглядайце з усёй дбайнасцю, не варта адмахвацца ад чагосьці толькі таму, што яно не лезе ў расклад. Можа, расклад патрабуе карэкцыі.

**КАЗЯРОГ.** Пачатак тыдня прынясе Казярогам некаторую колькасць сюрпрызаў і прымусіць на хаду мяняць планы. Нічога страшнага, затое вы адчуеце сябе бадзёрым, перамяшчаючыся па накатанай каляіне, нядоўга і задрамаць. Пры наяўнасці фінансавых праблем варта прынамсі першы час у іх нікога не прысвячаць - так будзе больш шанцаў, што яны вырашацца хутчэй. Ды і размоў не самых прыемных пазбегнуць удасца. Дома трэба пабольш увагі надаць функцыянальнасці жылля.

**ВАДАЛЕЙ**. У вашай галаве пасяліўся ўнутраны голас і нешта вам вяшчае? Прыслухайцеся, калі гаворкі здаюцца некалькі занудлівымі, гэта голас розуму, варта прыняць яго меркаванне пад увагу. Па крайняй меры зараз ён дрэннага параіць не павінен. Тыдзень павінен прынесці некаторую колькасць знаёмстваў - ваша задача пастарацца не ашаламіць людзей з першых жа хвілін зносін. Яны, можа, і не будуць вам карысныя, але ці мала якое каленца можа выкінуць лёс, не гожа пакідаць пра сябе цяжкае ўражанне, нават калі вы проста хацелі пажартаваць, ды выйшла не вельмі ўдала. Увогуле, будзьце стрыманей, гэта спатрэбіцца.

**РЫБЫ.** Усё, чаму вы навучыцеся на гэтым тыдні, апынецца запатрабаваным у самай найбліжэйшай будучыні. Так што вам выбіраць, чаму менавіта надаваць увагу. Самі разумееце, лепш на ўсякае глупства не разменьвацца, але і адкрыта непрыемныя для вас рэчы таксама чапаць не варта. Па відавочных прычынах, гэта вельмі ўдалы тыдзень для людзей, якія сур'ёзна займаюцца сваёй кар'ерай. Пазбягайце канфліктаў з начальствам - і гэтага будзе цалкам дастаткова, каб зрабіць вялікі крок уверх. Адзінай перашкодай можа апынуцца ваша недаверлівасць, не шукайце ворагаў сярод калег, вельмі малаверагодна, каб яны будавалі падкопы.

ISSN 2077-8023
9 772077 802009

«Вольнае Глыбокае»
**Заснавальнік:**
Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 21.01 2014 г. у 20[50]
Наклад 2200 паасобнікаў

**Рэдактар:**
Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 2-46-14;
**E:mail: vglybokaye@tut.by**
Адрас для допісаў:
**211800, г. Глыбокае, п/с №3**
**Замова 52**

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.

Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. №02330/0150475 ад 25.02.2009
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае